КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 16 (288) ◂ 20 красавіка ◂ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час

ISSN 2218-2144



ПАВАЛ ДЗЕМЕШ

Стар. 5

**З КІМ ІСЦІ ПОРУЧ?**

Выбар паміж Захадам і Усходам — гэта не выбар паміж аб'ёмамі эканамічнай дапамогі, гэта выбар паміж цывілізацыйным развіццём і цывілізацыйнай дэградацыяй

Стар. 6

**АШАРШЫЛЫК — КАЗАХСКІ ГАЛАДАМОР**

Афіцыйная Астана зняла табу з тэмы Галадамору ў Казахстане. Палітолагі спрачаюцца пра палітычныя матывы такога рашэння

Стар. 11

**СІБІРСКАЯ ГАЛГОФА БЕЛАРУСКІХ КСЯНДЗОЎ**

Стар. 14–15

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**КАТЫНСКАЯ ТРАГЕДЫЯ НЕ ЧУЖАЯ ДЛЯ БЕЛАРУСІ**

Артыкул гісторыка Ігара Мельнікава

▸ З НАГОДЫ

# СТОМЛЕНЫЯ, АЛЕ НЯСКОРАНЫЯ

Генадзь КЕСНЕР

**Кандыдат у прэзідэнты Беларусі на выбарах 2010 года Андрэй Саннікаў выйшаў на волю ўвечары 14 красавіка. Раніцай 15 красавіка вязніцу пакінуў і даверaная асоба Саннікава на тых выбарах Зміцер Бандарэнка. Суткі для цяпер ужо былых палітвязняў пайшлі на тое, каб убачыць родных і блізкіх і адказваць на незлічоныя тэлефанаванні. 17 красавіка Андрэй Саннікаў і Зміцер Бандарэнка правялі першую пасля вызвалення прэс-канферэнцыю.**



Стомленыя, але не скораныя — менавіта такімі мы ўбачылі Андрэя Саннікава і Зміцера Бандарэнку, калі яны ўвайшлі ў невялікі для сустрэч са шматлікімі журналістамі пакой у прафсаюзе РЭП, дзе, як кажуць, ужо і яблыку не было дзе ўпасці. Дарэчы, цікавасць да прэс-канферэнцыі экс-палітзняволеных праявілі не толькі незалежныя беларускія і замежныя СМІ, але і дзяржаўны тэлеканал АНТ.

Па словах Зміцера Бандарэнкі, умовы ягонага ўтрымання першыя два месяцы ў СІЗА КДБ былі даволі жорсткімі, але ў цэлым лягчэйшымі, параўнальна з тым, у якіх умовах утрымліваўся Андрэй Саннікаў. «Я перасякаўся з людзьмі, якія сядзелі ў камеры разам з Андрэем, і я ведаю, што ў яго ўмовы ўтрымання значна горшыя. Гэта ўвогуле была вялікая драма. Я не ведаю, як бы я сябе паводзіў, калі б ведаў, што мая жонка сядзіць у суседняй камеры. У турме КДБ кіравалі «маскі», ніякай законнасці ўвогуле не было... Нас аднойчы прымусілі паглядзець па тэлевізару сюжэт БТ пра тое, як спрабавалі забраць Даніка Саннікава ад бабулі з дзядулем. Гэта было паказана на ўсю краіну, на ўвесь свет — мауляў, вось ваш кандыдат у прэзідэнты, мы яго можам распяць, можам зрабіць усё, што заўгодна, з яго жонкай і сынам», — паведаміў Зміцер Бандарэнка.

Былы вязень распавёў пра пагрозы згвалтавання і калецтва, пра тое, што ў следчым ізалятары КДБ яго спрабавалі завербаваць, але ён заявіў, што хутчэй скончыць жыццё самагубствам, але не пойдзе на гэта. «Беларусь сёння пакрытая сеткай канцлагераў і турмаў, і гэта дзікае відовішча для XXI стагоддзя. Там тысячы халодных і галодных людзей, і калі я быў у медчастцы, за гэты час памерлі дванаццаць чалавек, у тым ліку і тыя, з якімі ў мяне наладзіліся добрыя стасункі», — сказаў Зміцер Бандарэнка.

Як распавёў Андрэй Саннікаў, справы складваліся такім чынам, што гаворка ішла пра выжыванне, бо пагроза фізічнага знішчэння яго і астатніх палітвязняў была даволі рэальнай. Дарэчы, раніцай 17 красавіка Саннікава выклікалі ў міліцыю, дзе яго азнаёмілі з умовамі, у якіх ён будзе жыць наступныя восем (!) гадоў. «Судзімасць у мяне застанецца наступныя восем гадоў, — падкрэсліў палітык. — Гэта сведчыць пра тое, якога характару было гэтае памілаванне. Я не ведаю, чаму менавіта такі вялікі тэрмін. Магчыма, таму, што артыкул, па якім мяне асудзілі, лічыцца асабліва цяжкім злачынствам».

Па словах Андрэя Саннікава, ён сапраўды напісаў на імя дзеючага прэзідэнта хадайніцтва аб памілаванні. «Я сапраўды напісаў, што прашу праявіць гуманнасць, мяне памілаваць, і ва ўчыненым раскайваюся. Я зрабіў гэта свядома і каментаваць больш не буду. Адзінае, што магу сказаць, гэта тое, што віны я не прызнаваў, хоць быў ціск у калоніі. Але больш падрабязна я зараз сказаць не магу», — падкрэсліў экс-кандыдат на пасаду кіраўніка Беларусі.

Андрэй Саннікаў адзначыў, што інфармаванасць кантынгенту калоній пра тое, што адбываецца ў краіне, даволі глыбокая. Сядзельцы вельмі добра ведалі, што ён быў кандыдатам у прэзідэнты Беларусі. «Надта ж ужо шмат увагі надавалася і з боку адміністрацыі, і з боку зняволеных. Шчыра кажучы, я прыйшоў у жах ад той колькасці людзей, якія сядзяць па несправядлівых прысудах. Хтосьці дабіваўся перагляду прыгавораў, хтосьці дабіваўся таго, каб саджалі следчых. Але я мяркую, што прычына таго, што да мяне сталі ставіцца больш уважліва і ізаляваць ад іншых, палягае ў тым, што я пачаў ставіць гэтыя пытанні публічна. Людзі знаходзяцца ў поўным страху, у поўнай залежнасці ад адміністрацыі калоніяў, яны проста баяцца пра штосьці казаць», — заявіў былы палітвязень.

Што да сябе асабіста і сваёй будучыні, то Андрэй Саннікаў сказаў: «Я думаю, як жыць далей, таму што тое, што зрабілі з маім асабістым жыццём і жыццём маёй сям'і, — гэта проста жах. Нейк трэба паспрабаваць вярнуць жыццё, а потым разам з жонкай, сынам прымаць рашэнне. Зараз трэба вярнуць жыццё. Разам з жонкай, з сынам».

Па словах удзельнікаў прэс-канферэнцыі, зараз самае галоўнае — дабіцца вызвалення астатніх палітвязняў — экс-кандыдата ў прэзідэнты Мікалая Статкевіча, лідара зарэгістраванага ў Чэхіі «Маладога фронту» Зміцера Дашкевіча, былога ваўкавыскага прадпрымальніка Мікалая Аўтуховіча, актывіста КХП-БНФ Сяргея Каваленкі, маладафронтаўца Эдуарда Лобава, сустаршыні арганізацыйнага камітэту па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Паўла Северынца, праваабаронцы Алеся Бяляцкага, маладых анархістаў.

Міжнародная супольнасць ужо вітала вызваленне з вязніцы Андрэя Саннікава і Зміцера Бандарэнкі. Еўрапейскі саюз настойвае на вызваленні і рэабілітацыі ўсіх палітычных зняволеных. Але ці пойдзе на гэты крок кіраўніцтва Беларусі, вялікае пытанне. Тым больш пасля заяваў кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі Уладзіміра Макея аб тым, што патрабаваць і дамагацца нечага ад афіцыйнага Мінска замежным палітыкам і структурам бессэнсоўна.

## СКАНДАЛ

### СЛУЦК. УЛАДЫ ЗНІШЧЫЛІ ГАРОДЫ ВАЕННЫХ ПЕНСІЯНЕРАЎ

**Жыхары Слуцку, якія пражываюць у мікрараёне 11-га ваеннага гарадка, знаходзяцца ў шокавым стане ад дзеянняў мясцовых уладаў. На працягу аднаго дня трактар, які прыбыў з мясцовай ЖКГ, знішчыў шматгадовую працу людзей — выкарчаваў садовыя дрэвы, разбурыў цяпліцы і знішчыў каля 80 гародаў жыхароў дамоў, змешчаных у прыдарожнай паласе.**

У канцы сакавіка на сходзе жыхароў 11-га ваеннага гарадка старшыня Слуцкага раённага савета дэпутатаў прапанаваў навесці парадак на гародах да 24 красавіка. Але ўжо 4 красавіка ўлады даслалі трактар, які, нягледзячы на слёзы ўладальнікаў, знішчыў каля 80 гародаў.

«Зямля пад градкі ў гэтым мікрараёне была вылучана случчанам яшчэ ў 1989 годзе. Карысталіся ёй прыкладна 400 чалавек. Больш за 20 гадоў ваенныя пенсіянеры і іншыя грамадзяне зацята працавалі на зямлі, каб атрымаць харчовую запамогу да заробкаў і пенсій. Высадзілі пладовыя дрэвы і кусты, некаторыя пабудавалі цяплічкі. Тут працавалі і тут жа адпачывалі на лавах пад вішнямі. Потым пайшлі розныя чуткі, што гароды будуць зносіць з-за інвестыцыйных праектаў, — распавядае Пётр Іванавіч Сцяпановіч. — Увесну мінулага года адбыўся сумесны сход з прадстаўнікамі улад. Жыхары мікрараёна сабралі каля 400 подпісаў пад калектыўным зваротам у адміністрацыю прэзідэнта з просьбай не губіць градкі. Гарадское начальства паабяцала, што мы можам спакойна працаваць на працягу двух гадоў. Але ўлады не выканалі абяцанне. 25 сакавіка я асабіста прысутнічаў на сходзе, які праводзіў старшыня Слуцкага раённага савета дэпутатаў Віктар Ражанец. Было вырашана, што ўвосень 2012 года людзям будуць прапанаваны іншыя зямельныя ўчасткі, а да таго часу яны могуць карыстацца старымі гародамі. Таксама ўладальнікам гародаў было прапанавана да 7 красавіка прывесці ўчасткі ў цывілізаваны выгляд: прыбраць зрыўкі плёнкі з цяпліц, ліквідаваць прагнілыя платы. Крайні тэрмін для навядзення парадку быў прызначаны на 24 красавіка».

Аднак ужо 4 красавіка ўладальнікі ўчасткаў былі пастаўленыя перад фактам: на працягу некалькіх гадзін каля 80 гародаў у прыдарожнай паласе вуліцы Гагарына былі спляжаныя, нягледзячы на слёзы пажылых людзей. Прычым камандаваў разбуральнымі працамі генеральны дырэктар КУП «Слуцкая ЖКГ» Мікалай Варанько.

«Загубленыя маліна, часнок, чырвоная і чорная парэчка, пладовыя дрэвы, акуратная шкляная цяплічка. Каму яны замінаілі? Калі жадалі навесці парадак, чаму не дзейнічалі цывілізавана? Атрымліваецца, што самы галоўны дэпутат нас ашукаў», — кажа Фёдар Пятровіч Брынзя, пажылы вайсковец у адстаўцы.

Леанід Альбінавіч Таронскі, маёр у адстаўцы, мяркуе, што гароды знесены з боязі ўлад перад вышэйшым начальствам: «Па вуліцы Гагарына міма гародаў увесь час возяць начальства ў паказальныя аграгаспадаркі на семінары. Замест таго, каб умела пакіраваць людзьмі і навесці парадак, лягчэй аддаць загад усё знесці. І чаму такі загад выконвае ЖКГ? Чаму яно не навядзе парадак побач з маім домам? Я ваяваў у Афганістане, удзельнічаў у ліквідацыі наступстваў Чарнобыля. Нават пад бамбёжкамі не было такой бязладзіцы, як каля дамоў №170 і 170-А па вуліцы Сацыялістычнай. Чамусьці генеральны дырэктар ЖКГ гэтага не бачыць! Улады даюць нам жабрацкую пенсію, адналі ільготы, паднялі кошты. Яны вымусілі нас капацца на гародах, прымусілі выжываць дзякуючы рабскай працы. Яны растапталі не гароды — яны зняважылі і растапталі нас як людзей».

Некаторым случчанам пашанцавала, іх гароды не кранулі.

**Паводле сайта «Беларускія рэгіянальныя навіны»**

### ГОРКІ. У ЧАКАННІ ВЕЛАДАРОЖАК

**Гараджане, якія выступаюць за здаровы лад жыцця, сабралі больш за 300 подпісаў, каб першая веладарожка ўжо ў гэтым годзе злучыла некалькі гарадскіх мікрараёнаў. З ініцыятывай выступілі актывісты Руху «За Свабоду».**

У горадзе Горкі няма ні адной спецыяльна абсталяванай веладарожкі, хоць ровар ёсць амаль у кожнай сям'і. Жыхары горада актыўна ездзяць на гэтым экалагічным транспарце з ранняй вясны і да позняй восені. Ён асабліва актуальны цяпер, калі цэны на бензін моцна выраслі, а грамадскі транспарт ходзіць не так ужо часта, паведамляе сайт horki.info.

Пры адсутнасці веласіпедных дарожак людзі едуць па краі праезджай часткі. У выніку штогод у сезон больш за два дзясяткі равараыстаў у Горках становяцца ўдзельнікамі дарожна-транспартных здарэнняў.

Ініцыятары звароту да мясцовых уладаў спадзяюцца, што абсталяванне



веладарожак можна будзе ажыццявіць у рамках добраўпарадкавання горада да свята ўраджаю «Дажынкі–2012».

Подпісы бліжэйшым часам будуць перададзеныя ў гарвыканкам.

**Паводле інфармацыі Руху «За Свабоду»**

## СПРАВА

# КАМУНІСТЫ СУПРАЦЬ МФ

**У Вялікую пятніцу, напярэдадні свята праваслаўнага Вялікадня, сябра «Маладога фронту» Раман Васільеў прыйшоў у кватэру, якую супольна здымаюць некалькі маладафронтаўцаў, і пабачыў: дзверы адчыненыя, усё перавернута ўверх дном, зніклі арганізацыйныя банэры ды бел-чырвона-белыя сцягі, а самае галоўнае — няма Паўла Сяргея.**

Хлопец аб'явіўся толькі ўвечары. Аказалася, у кватэру, дзе знаходзіўся адзін Павал Сяргей, пазванілі ў дзверы. Хлопец адчыніў і пабачыў пяцёра людзей у цывільным, адзін з якіх прадставіўся ўчастковым. Мужчыны ўварваліся ў кватэру ды пачалі зрываць са сценаў нацыянальныя сцягі, забіраць банэры. Калі хлопец спытаўся, хто яны і што яны робяць, яму начапілі на рукі кайданкі, вывелі на вуліцу і пасадзілі ў машыну. Зразумела, што дазволу на ператрус у прысутных не было, пратаколаў пра канфіскацыю маёмасці ніхто не складаў.

Паўла Сяргея прывезлі ў суд Маскоўскага раёна на пасяджэнне… па грамадзянскім іску камуністаў.

Удзельнікі мітынгу 7 лістапада 2011 года ля помніка Леніну падалі ў суд на сяброў МФ Паўла Сяргея, Рамана Васільева і Міхася Мускага. Камуністы (а ў суд паступілі 2 аналагічныя іскі) вінавацяць хлопцаў у нанясенні матэрыяльнай і маральнай шкоды. Паводле камуністаў, закідванне помніка Леніну яйкамі стала прыніжэннем іх гонару і годнасці, як людзей, якія выхоўваліся «ў духу калектывізму, інтэрнацыяналізму, сацыялістычных і камуністычных каштоўнасцяў, якія і дагэтуль жывуць у нашых сэрцах» (цытата са скаргі). Заяўнікі пішуць, што яйкі быццам бы запэцкалі ім паліто, што нанесла матэрыяльную шкоду.

Камуніст Мікалай Юшчанка (1934 года нараджэння) просіць суд спагнаць з маладафронтаўцаў 900 тысяч рублёў у якасці маральнай кампенсацыі і 600 тысяч рублёў у якасці матэрыяльнай кампенсацыі. Маладзейшы Мікалай Валовіч (1985 года нараджэння) ацаніў свой маральны спакой і паліто — адпаведна ў 2,5 мільёна рублёў і 2 мільёна рублёў.

«Больш за ўсё ў гэтым іску мяне здзівілі і абурылі тры моманты: па-першае, асоба заяўніка 1985 года, які сцвярджае, што выхоўваўся ў духу савеччыны. Па-другое, іск пададзены праз паўгады пасля акцыі 7 лістапада. Па-трэцяе, суд адбыўся ў велікодныя дні — улічваючы, што заяўнікі з'яўляюцца атэістамі, гэта выглядае блюзнерствам», — каментуе судовы іск Раман Васільеў.

На першым пасяджэнні камуністы агучылі свае іскі, аднак прысутны маладафронтавец Павал Сяргей і выкліканы адвакат папрасілі перанесці судовы працэс, каб мець час дэталёва азнаёміцца з патрабаваннямі камуністаў ды падрыхтаваць пазіцыю абароны. Дарэчы, на суд у кайданках прывезлі і Міхася Мускага, які на той час адбываў адміністрацыйны арышт на Акрэсціна.

«На маю думку, гэты суд — цудоўная магчымасць працягнуць грамадскі трыбунал над камунізмам, які «Малады фронт» распачаў яшчэ ў 2008 годзе. Мы запросім на наступнае пасяджэнне гісторыкаў і даследчыкаў, якія вывучаюць перыяд «крывавага тэрору», сваякоў ахвяраў сталінскіх рэпрэсій, святароў. Няхай камуністы паглядзяць у вочы тым людзям, да трагедый, да знішчэння сем'яў якіх спрычыніліся іх аднадумцы па крывавай ідэалогіі. Няхай публічна пачуюць словы асуджэння, якога, на жаль, пакуль няма на дзяржаўным узроўні», — гаворыць намесніца старшыні МФ Наста Палажанка.

Наступнае пасяджэнне распачнецца 3 мая а 9-й ранку ў судзе Маскоўскага раёна.

**Паводле mfront.net**

## СМІ

# СУД СКАРГІ НЕ ЗАДАВОЛІЎ

***Журналіста Радыё Рацыя канчаткова прызналі вінаватым у хуліганстве, нягледзячы на няскончаную праверку па факце затрымання.***

Аляксандр Ярашэвіч прасіў Мінскі гарадскі суд правесці дадатковае расследаванне свайго затрымання на канцэрце руху «Ежа замест бомб» напрыканцы сакавіка бягучага года.

Тады карэспандэнт Радыё Рацыя двое сутак правёў у ізалятары часовага ўтрымання, а потым быў асуджаны нібыта за дробнае хуліганства падчас выканання рэдакцыйнага задання.

Нягледзячы на ўсе гэтыя акалічнасці, суддзя мінскага суда Людміла Шапашнікава адмовіла журналісту ў скарзе.

«Суддзя Мінскага гарадскога суда Людміла Шапашнікава пакінула прысуд суда Цэнтральнага раёна без зменаў, то бок яна не задаволіла маю скаргу. Гэта нягледзячы на тое, што да матэрыялаў справы былі далучаны адказы з генеральнай пракуратуры, пракуратуры Цэнтральнага раёна, якія сведчылі, што на дадзены момант праводзіцца пракурорская праверка па факце майго адвольнага затрымання. У той жа час, напрыклад, у суседнім кабінеце праходзіў разгляд скаргі Паўла Дзеркача, якога таксама затрымалі падчас канцэрта, і вось той суддзя прыняў рашэнне, каб усё ж такі дачакацца гэтай пракурорскай праверкі», — распавёў Аляксандр Ярашэвіч.

Апроч Аляксандра Ярашэвіча, па факце адвольнага затрымання ў клубе «Ё-маё» беларускія праваабаронцы накіравалі скаргу ў рабочую групу па адвольных затрыманнях пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

На дадзены момант Следчы камітэт Беларусі і Мінская гарадская пракуратура праводзіць праверку па факце незаконных дзеянняў супрацоўнікаў праваахоўных органаў, якія затрымалі на канцэрце «Ежа замест бомб» больш за сто чалавек.

**Паводле Радыё Рацыя**

## КІНО

# ПРА ГЕРОЯЎ ПЛОШЧЫ

**У офісе Руху «За Свабоду» пры падтрымцы Камітэта «Салідарнасць» і чэшскай няўрадавай арганізацыі «Чалавек у нядолі» 17 красавіка адбылася прэзентацыя дакументальных стужак, прысвечаных тым, хто быў кінуты за краты за свае перакананні.**

На паказ пяці кароткаметражных дакументальных стужак рэжысёраў Сяргея Ісакава і Вольгі Мікалайчык былі запрошаны маладыя героі Плошчы і іх маці.

«Нам хацелася паказаць грамадзянскі патэнцыял юнакоў, — адзначыла кіраўнік праекта Людміла Ісакава. — Самі рэальныя героі паўстаюць у фільме як асобы, здольныя аналізаваць, разважаць, задумвацца пра лёс краіны».

Героі стужак распавядалі пра цёплыя чалавечыя адносіны ў іх сем'ях, якія дапамаглі ім перамагчы нягоды.

Як сказана ў прэамбуле да фільма, 19 студзеня 2010 года ў Мінску былі арыштаваныя больш за 800 удзельнікаў мірнага пратэсту. Юнакі ад 18 да 23 гадоў спазналі бесчалавечны і жорсткі абыход у вязніцах. Сярод іх былі былы студэнт Павел Вінаградаў, студэнт Аляксандр Малчанаў, маладыя музыкі Сяргей Казакоў і Дзмітры Буланаў, былы працаўнік з МАЗа Дзмітры Даронін, праграміст Андрэй Пратасеня і іншыя.

У хуткім часе паглядзець стужкі можна будзе на сайце Камітэта «Салідарнасць» www.salidarnasc.org.

**Паводле інфармацыі Руху «За Свабоду»**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ХТО КАГО ПАДСТАЎЛЯЕ?

Сяргей САЛАЎЁЎ



**Здаецца, што беларускага правадыра проста «падстаўляюць». Прычым «падстаўляюць» на самым вышэйшым узроўні. Прынамсі, узнікае ўражанне, што нейкі «пацук» вырыў сабе прытулак каля Аляксандра Рыгоравіча.**

Не тое, каб я так моцна клапаціўся пра прэзідэнта. Пра яго ёсць каму паклапаціцца і без мяне. Але ж на сумныя думкі наводзяць навіны. Глядзіце самі.

Пасланне Аляксандра Лукашэнкі беларускаму народу і Нацыянальнаму сходу, раней запланаванае на 19 красавіка, перанесена на пазнейшы тэрмін. Кіраўнік дзяржавы адхіліў праект паслання, падрыхтаваны дзяржаўнымі органамі, і адправіў яго на дапрацоўку.

У частцы, якая датычыцца знешнепалітычных падыходаў, прэзідэнт «выказаўся супраць залішне жорсткіх мер рэагавання на праблемы, што ўзнікаюць ва ўзаемаадносінах Беларусі са сваімі партнёрамі».

Наконт знешнепалітычных падыходаў Аляксандр Рыгоравіч выказаўся ясна — ніякіх жорсткіх мер. І нават вызваліў Саннікава і Бандарэнку. Але кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Уладзімір Макей назваў «поўным абсурдам» меркаванні, якія выказваюцца ў СМІ, аб тым, што, выпусціўшы экс-кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава і сябра яго каманды Дзмітрыя Бандарэнку, беларускія ўлады ствараюць умовы для вяртання паслоў Еўрасаюза ў Мінск.

Макей сцвярджае: «Ніякага вызвалення пад націскам не будзе. Ніякай рэабілітацыі па еўрасаюзаўскаму загаду — таксама не будзе. Гэта ўсе павінны добра разумець. Але нават тыя ж самыя адпушчаныя былыя зняволеныя ў сваіх хадайніцтвах чорным па белым напісалі аб прызнанні сваёй віны і аб раскаянні».

З аднаго боку — Лукашэнка кажа пра «залішне жорсткія меры». А з іншага — Макей выстаўляе ўльтыматум дыпламатам. Ну куды ж такое?

Другая навіна. Упраўленнем КДБ па Гродзенскай вобласці спынена дзейнасць міжнароднай злачыннай групы, якая арганізавала канал нелегальнай міграцыі з краін з тэрарыстычнай актыўнасцю. Як паведамляе Цэнтр інфармацыі і грамадскіх сувязяў КДБ Беларусі, у выніку правядзення аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў у полі зроку супрацоўнікаў УКДБ трапілі двое жыхароў Свіслацкага раёна, якія, выкарыстоўваючы сувязі ў крымінальным свеце і веданне становішча на дзяржаўнай мяжы Беларусі з Польшчай, арганізавалі канал нелегальнай міграцыі грамадзян Афганістана ў краіны Заходняй Еўропы.

Як паведамляе ЦІГС КДБ, цяпер назіраецца актывізацыя дзейнасці арганізатараў каналаў нелегальнай міграцыі з краін з тэрарыстычнай актыўнасцю ў дзяржавы Еўропы. Гэтыя каналы маюць у тым ліку экстрэмісцкую і тэрарыстычную скіраванасць, пра што сведчаць паказанні затрыманых, а таксама іх мінулае.

Так, мы заўсёды — і не без падставаў — ганарыліся тым, што з'яўляемся «надзейным замком» на Захад. Заслонай на мяжы наркатрафіку, нелегальнай міграцыі, тэрарызму, гандлю людзьмі.

Але не паспела гэтая навіна прыйсці, як крыніца ў Дзяржаўным пагранічным камітэце паведаміла БелаПАН: «Ва ўмовах санкцый з боку Еўрапейскага саюза Беларусь пераглядае свае падыходы да арганізацыі аховы мяжы з краінамі ЕС. Улічваючы цяперашнюю сітуацыю і зыходзячы са сваіх магчымасцяў, беларускае пагранведамства пераходзіць да ажыццяўлення аховы мяжы (кантрабанда, нелегальная міграцыя і гэтак далей) па такім жа прынцыпе, якім кіруюцца краіны-суседзі».

Гаворка ідзе аб тым, што прыярытэт будзе аддадзены кантролю за ўездам у Беларусь, тады як раней намаганні па забеспячэнні пагранічнай бяспекі на ўезд і выезд былі размеркаваныя раўнамерна.

Ужо цяпер вядома, што для ўзмацнення аховы ўчастка мяжы з Украінай, з мэтай прадухілення кантрабанды і напярэдадні футбольнага чэмпіянату «Еўра–2012» туды перакідваецца частка сіл і сродкаў органаў паграслужбы з заходняга і паўночна-заходняга ўчасткаў мяжы.

«Такую рэч, як мяжа, палітызаваць небяспечна, але цяпер нас паставілі ў такія ўмовы. Любыя санкцыі ў першую чаргу адбіваюцца на мяжы. Раней мы вельмі шмат працы рабілі за нашых заходніх калегаў, якія дазвалюць сабе байкатаваць. Часта яны толькі атрымлівалі ад нас інфармацыю аб тым, што мы кагосьці не прапусцілі, прадухілілі ўвоз на іх тэрыторыю чагосьці. З санкцыямі яны трапілі ў сваю ж пастку. Таму што цяпер пытанні бяспекі мяжы давядзецца пераглядаць з улікам нашых рэальных магчымасцяў і працаваць, як працуюць яны, — на ўезд. Пры гэтым, зразумела, свае пытанні бяспекі на мяжы на выезд з краіны пагранведамства будзе забяспечваць у поўным аб'ёме», — заявіла крыніца ў пагранведамстве Беларусі.

Зараз і Еўрасаюз, і польскі бок могуць узгадаць, колькі ж грошай яны ўклалі ў беларускую мяжу. Вядома, што і самі памежныя пераходы, і іх мадэрнізацыя рабіліся за грошы Еўрасаюза. Гэта ні для каго не сакрэт. І ўсё адно мы чуем пра чарговыя карупцыйныя скандалы на мяжы, пра кантрабанду. І гэтак далей.

Акрамя таго, крыніца БелаПАНа звярнула ўвагу на тэхнічныя аспекты аховы польскага ўчастка мяжы. Дзейная там з савецкіх часоў сістэма даўно вычарпала свае рэсурсы і патрабуе замены на больш сучасную, адзначыў суразмоўца. Толькі на яе ўтрыманне ў год расходуецца 3 мільярда рублёў. Пры гэтым камплектуючы да такой сістэмы даўно не вырабляюцца. Хоць, паводле слоў суразмоўцы агенцтва, польскі бок гэта шматпрофільная эшаланаваная сістэма вельмі задавальняе. Сама ж Польшча на мяжы з Беларуссю мае толькі «лёгкую» сістэму аховы.

І за ўсе гэтыя грошы мы не маглі наладзіць сучасную ахову мяжы? Выбачайце! Калі памежнікі працуюць у такіх умовах — маё ім спачуванне.

Вас, Аляксандр Рыгоравіч, «падстаўляюць».

**І Еўрасаюз, і польскі бок могуць узгадаць, колькі грошай яны ўклалі ў беларускую мяжу. Вядома, што мадэрнізацыя памежных пераходаў адбывалася за грошы Еўрасаюза**




## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### АНАТОЛЬ КАЛІНІН



Намеснік прэм'ер-міністра Анатоль Калінін паабяцаў, што шматдзетныя сем'і будуць атрымліваць жыллё на працягу трох гадоў. Паводле слоў віцэ-прэм'ера, у Беларусі стаіць задача выйсці па аб'ёмах жыллёвага будаўніцтва ў 2015 годзе на ўзровень 9 500 000 квадратных метраў. Пры гэтым 50 працэнтаў уводу жылля мусіць быць забяспечана за кошт індывідуальнага будаўніцтва. Развіццё таксама атрымае будаўніцтва арэнднага жылля, на якое будуць накіроўвацца льготныя крэдытныя рэсурсы і бюджэтныя сродкі.

Новая ж канцэпцыя жыллёвага будаўніцтва ў Беларусі прадугледжвае павелічэнне ў бліжэйшыя гады аб'ёмаў будаўніцтва жылля для сацыяльна неабароненых катэгорый грамадзян. Пра гэта паведамілі на пасяджэнні Брэсцкага абласнога выканаўчага камітэта, перадае карэспандэнт БелТА.

Плануецца, што ў наступным годзе ўдзельная вага жылля для шматдзетных сем'яў у агульным аб'ёме ўводу дасягне 22 працэнтаў. Удзельная вага жылля для грамадзян, якія пражываюць у непрыдатным жытле, будзе ў межах 1–1,5 працэнта, а для маладых сем'яў з двума дзецьмі — каля 20 працэнтаў у агульным аб'ёме будаўніцтва жылля. У выніку шматдзетныя сем'і атрымаюць магчымасць пабудаваць жыллё на працягу трох гадоў з моманту пастаноўкі на чаргу, калі маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, вайскоўцы — на працягу пяці гадоў, а вайскоўцы, якія пражываюць у Мінску, — на працягу сямі гадоў.

### МІХАІЛ АЎДЗЕЕЎ



Беларускі штангіст Міхаіл Аўдзееў (вагавая катэгорыя да 105 кілаграмаў) стаў бронзавым прызёрам у двубор'і на чэмпіянаце Еўропы па цяжкай атлетыцы. Па суме двух практыкаванняў 30-гадовы барысаўчанін паказаў вынік 395 кілаграмаў (180 кілаграмаў у рыўку + 215 кілаграмаў у штуршку).

Дзве верхнія прыступкі п'едэстала занялі расіяне. Золата заваяваў 23-гадовы Давід Беджанян — 405 кілаграмаў, серабро ў расіяніна Максіма Шайко — 401 кілаграм. У актыве беларуса Міхаіла Аўдзеева таксама малая бронза за вынік, паказаны ў штуршку (215 кілаграмаў).

На чэмпіянаце Еўропы беларуская каманда выступае без лідараў — Анастасія Новікава, Андрэй Арамнаў, Андрэй Рыбакоў па індывідуальным плане рыхтуюцца да хуткай Алімпіяды ў Лондане.

Яшчэ ў двух катэгорыях прадстаўніцы Беларусі былі блізкія да п'едэстала. 18-гадовую Алену Чычкан (да 53 кілаграмаў) і Людмілу Брыль (да 63 кілаграмаў) ад бронзавых медалёў аддзяліў усяго 1 кілаграм.

Алена Чычкан у сваёй вагавой катэгорыі да 53 кілаграмаў паказала вынік 200 кілаграмаў, прапусціўшы наперад Крысціну Йову з Малдовы — 207 кілаграмаў, турчанку Айлін Дасдзелен — 201 кілаграм і расіянку Святлану Чарамшанаву — 201 кілаграм, заняла 4-е месца. Таксама яна заваявала малое серабро ў рыўку (88 кілаграмаў), паказаўшы аднолькавы вынік з турчанкай і расіянкай.

Таксама на 4-м месцы ў вагавой катэгорыі да 63 кілаграмаў апынулася беларуска Людміла Брыль, яна ж заваявала бронзу ў рыўку (93 кілаграмы).

### УЛАДЗІМІР ПРАКАПЦОЎ



Кіраўнік Нацыянальнага мастацкага музея Уладзімір Пракапцоў заявіў, што ўстанова чакае падтрымкі з боку прыватнага капіталу. Паводле яго слоў, музей спадзяецца надалей актыўна прыцягваць прадпрымальнікаў да падтрымкі беларускага сучаснага мастацтва. «З-за фінансавай сітуацыі, эканамічнай сітуацыі Мінкультуры не зможа спансіраваць усе праекты», — цытуе Пракапцова БелаПАН. Таму музей, прадпрымальнікі і іншыя партнёры стварылі апякунскі савет для падтрымкі культурных праектаў, у тым ліку і міжнародных. «Мы вельмі напружана шукаем розныя шляхі прыцягнення прыватнага бізнэсу ў Нацыянальны мастацкі музей», — сказаў Пракапцоў.

Ён таксама спадзяецца, што дапамогу музею акажуць калекцыянеры твораў мастацтва. Першыя падобныя прыклады ўжо ёсць. Напрыклад, праз месяц-два ў музеі плануецца правесці прэзентацыю ўнікальных ікон, якія перадаў калекцыянер.

Пракапцоў заклікае беларускіх мастакоў падарыць па некалькі сваіх карцін музею, якія вельмі зацікаўлены ў стварэнні поўнай калекцыі сучаснага мастацтва. Паводле яго слоў, некаторыя мастакі падарылі свае карціны музею ў рамках святкавання 120-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча. Дырэктар музея спадзяецца, што гэта традыцыя працягнецца ў рамках святкавання 130-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа ў 2012 годзе.

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# З КІМ ІСЦІ ПОРУЧ?

Сяргей НІКАЛЮК

**Выбар паміж Захадам і Усходам — гэта не выбар паміж аб'ёмамі эканамічнай дапамогі, гэта выбар паміж цывілізацыйным развіццём і цывілізацыйнай дэградацыяй.**



Калі я працаваў над тэкстам папярэдняй «Азбукі паліталогіі», дык яшчэ не ведаў пра начны інцыдэнт у Оршы, калі з цягніка знялі Анатоля Лябедзьку, Сяргея Калякіна і Аляксандра Атрошчанкава. Сімвалічна, што інцыдэнт адбыўся ў цягніку «Мінск — Масква». Стварэнне знакаў, якія аб'ядноўваюць грамадства, — адна з найважнейшых задач палітычнай эліты, і ў гэтым сэнсе нашы топ-чыноўнікі не пакутуюць на недахоп крэатыўнасці. У сакавіку яны сумесна з расійскімі калегамі прынялі ўдзел у яшчэ адным сімвалічным дзеянні, якое стварыла праблемы авіяпасажырам. Цікава, калі б паміж сталіцамі Саюзнай дзяржавы курсавалі цеплаходы, то ці часта пасажыры станавіліся б ахвярамі такога кшталту сімваластварэння?

Нагадаю: чарговы фантан крэатыву паўстаў на фоне заклікаў няўхільна выконваць Закон і захоўваць Парадак. У якасці каментара працытую словы амерыканскага сацыёлага Чарльза Цілі: «Прымус у імя «Закону і Парадку», калі ён ужываецца дзяржавай і яе афіцыйнымі прадстаўнікамі, часам цяжка адрозніць ад злачынства і разбою, якія падрываюць сацыяльны парадак».

## Метадам выключэння

Але пойдзем далей. Заключная частка артыкула акадэміка Анатоля Рубінава *«Общество. Власть. Время»* прысвечана геапалітычнаму выбару Беларусі. Выбіраць даводзіцца з трох *«главных мировых центров влияния»:* амерыкана-еўрапейскага блоку, Кітая і расійскага блока.

На баку першага блока асноўны навукова-тэхнічны патэнцыял, ад якога залежыць увесь астатні свет. Але рэзкі разварот на Захад пагражае стратай ільготных цэн на расійскія энерганосьбіты. *«Одного этого уже было бы достаточно, чтобы обрушить экономику нашей страны. Все остальные нюансы можно даже не рассматривать»*. Выдатнае прызнанне! Калі скарыстацца ўлюбёным ідыяматычным выразам «адзінага палітыка» (АП), яно *«дорогого стоит»*. Кожны раз, калі з самай высокай трыбуны нам вяшчаюць пра вартасці беларускай эканамічнай мадэлі, мы не павінны забываць, што для яе абвальвання *«одного этого было бы достаточно»*.

А што Захад? Акрамя дарадцаў па «дэмакратызацыі», ён нічога прапанаваць не ў стане. Яго рэальны інтарэс палягае ў адрыве Беларусі ад Расіі, бо Саюзная дзяржава ўяўляе для Захаду канкурэнта *«в виде эффективного производителя»!*

Што да Кітаю, дык хоць ён і ператвараўся ў «майстэрню свету» і сёння з'яўляецца галоўным кандыдатам на ролю краіны будучыні, *«но даже при самых лучших наших отношениях у Китая своя судьба и свое предназначение»*. З гэтым цяжка не пагадзіцца. Паміж канфуцыянскім Кітаем і праваслаўнай Беларуссю ляжыць цывілізацыйная прорва.

Так метадам выключэння мы ўпіраемся ў Расію, якая нягледзячы на *«демократические разборки»* мае ўсе шанцы выйсці ў сусветныя лідары. Але ёй адной не даць рады. Вось тут і павінны адыграць сваю ролю інтэграцыйныя працэсы на постсавецкай прасторы. Калі хтосьці думае, што ў расійскім блоку Беларусі адведзена роля «нахлебніка», дык ён памыляецца. Выразнае кіраванне, сучасная прамысловасць і пастаўленая на навуковую аснову сельская гаспадарка — усё гэта *«не только не обеднит, но, напротив, усилит Россию»*.

Адкрыем гандлёвы баланс за студзень-люты. З Расіі мы імпартавалі тавараў на $4,6 мільярда, а экспартавалі — на $2,2 мільярда. І без калькулятара лёгка падлічыць сальда. Яно перавышае аб'ём экспарту, а ў параўнанні з мінулым годам павялічылася на 89%. І гэта пасля чарговых прэферэнцый на газ і нафту! Дык наколькі маюць рацыю тыя, хто мяркуе, нібыта ў расійскім блоку Беларусі адведзена роля «нахлебніка»?

## «Слабы» долар

Сёння мы назіраем масавы ад'езд беларусаў у Расію. Пакідаць родныя мясціны суайчыннікаў прымушае дыспарытэт заробтнай платы: у снежні 2011 года ў Расіі сярэдні заробак быў $790, у Беларусі — $355. «Уся справа ў прыродных рэсурсах», — тлумачыць акадэмік. Па-першае, цэны на энергарэсурсы для Беларусі ўсе гэтыя гады былі значна вышэйшыя, чым у Расіі. Але акрамя «па-першае», маецца і «па-другое». Дадатны баланс знешняга гандлю за кошт продажу сыравіны дазваляе Расіі мець «слабы» долар, а расійскім прадпрыемствам *«без больших ограничений покупать импортные составляющие для своего производства и, продавая свои товары, в конечном счете получать прибыль»*. Адсюль рукой падаць да галоўнай высновы: без увядзення адзінай валюты Беларусі ўласнымі высілкамі сваіх праблем не вырашыць.

Калі мне памяць не здраджвае, да кастрычніка 2011 года і мы жылі пры «слабым» долары.




Наступствы вядомыя: экспартнаарыентаваную беларускую эканоміку «танны» долар ледзь не давёў, як кажуць, да ручкі.

Не менш разбуральнымі былі наступствы і для Расіі. Калі спачатку 90-х гадоў на апрацоўчыя прамысловасці прыпадала 37% дададзенага кошту, то ў 2010 годзе — 16%. «Слабы» долар пасунуў знешні гандаль фактычна ў сярэднявечча. Параўнаеце: у 1991 годзе мінеральная сыравіна складала 26% сумарнага экспарту Расіі, у 1999 годзе — 44,9%, у 2010 годзе — 68,8%. Ці варта пасля гэтага дзівіцца, што калі ў 1991 годзе ВУП на душу насельніцтва ў Расіі перавышаў сярэднесусветны ўзровень на 54%, то ў 2009-м — толькі на 17%...

Тое, што ў часы майго басаногага дзяцінства называлася «сыравінным прыдаткам прамыслова развітых краін», сёння завецца «энергетычнай дзяржавай». Эканоміка сучаснай Расіі пабудаваная на экспарце сыравіннай рэнты ў абмен на імпарт інавацыйнай рэнты міжнародных карпарацый у выглядзе гатовай прадукцыі. Яна функцыянуе ў інтарэсах вузкага кола алігархаў, якія кормяцца з «трубы». Але дзе тут месца Беларусі?

Колькі слоў пра эмісійную палітыку Банка Расіі. Яна ніяк не звязана з запатрабаваннямі эканомікі. «Эмісія рубля, — тлумачыць фінансавы аналітык Уладзіслаў Жукоўскі, — вось ужо 12 гадоў цвёрда прывязана да прытоку нафтадалараў і да замежных крэдытаў, а Банк Расіі, па сутнасці, ператварыўся ў падраздзяленне Федэральнай рэзервовай сістэмы і звёў усю грашова-крэдытную палітыку да дзейнасці валютнага абменніка».

Пераход на расійскі рубель, чыя «сіла» залежыць ад прытоку нафтадалараў, прымусіць беларускую апрацоўчую прамысловасць паўтарыць лёс расійскай. Тут дарэчы будзе нагадаць і пра праблемы грэчаскай эканомікі, прыкаванай да «моцнага» еўра і таму пазбаўленай магчымасці адказваць на крызісы дэвальвацыяй уласнай валюты.

## Нядольныя змяняцца — асуджаныя

Аднак у геапалітычнага выбару, апроч эканамічнага, маецца і цывілізацыйны складнік. Не ўпэўнены, што пра гэта здагадваюцца ў кабінетах на Карла Маркса, 38. Занадта ўжо там усе занятыя падлікам барышоў ад чарговых беларуска-расійскіх дамоваў. Але я, прафесійны беспрацоўны, не абцяжараны такога кшталту меркантыльнымі падлікамі, і таму магу дазволіць сабе напышліва разважаць на, здавалася б, абстрактную тэму.

Традыцыйна пачну з цытаты: «Пытанне не ў тым, у які бок мы пойдзем. У любым выпадку мы пойдзем у кірунку эканамічнай плыні. Пытанне толькі ў тым, які кошт мы заплацім. Пойдзем поруч з эканамічнай неабходнасцю — і яна стане нашым сябрам і дабрадзеем. Ці эканамічная плынь зацягне нас пад сябе, як пад бульдозер» (Мікалай Трэнёў, эканаміст).

Натуральна, што эканаміст звяртае ўвагу на эканамічную плынь, але ёсць яшчэ і плынь культурная, уменне ісці поруч з ёй — не менш значнае для выжывання беларускай нацыі і дзяржавы.

Культурная (адпаведна, і цывілізацыйная) блізкасць Беларусі і Расіі, здаецца, відавочная. Заходняя цывілізацыя грунтуецца на трох кітах: грэчаскай філасофіі, рымскім праве і каталіцызме-пратэстантызме. Пры ўсёй маёй павазе да старажытных грэкаў і рымлянаў, прасачыць іх уплыў на беларускую культуру я не ў стане. Што да рэлігійнага фактару, дык разабрацца з ім нам дапамогуць апытанні НІСЭПД. У верасні 2009 года праваслаўнымі сябе лічылі 79% жыхароў рэспублікі, а каталікамі — толькі 11%. Такая грунтоўная перавага на карысць праваслаўя пацвярджаецца і адказамі на пытанне пра давер. Праваслаўная царква пры гэтым апынаецца па-за канкурэнцыяй: у чэрвені 2011 года ёй давяралі 63%, у той час як каталіцкай царкве — 38%.

Дык у чым пытанне, хіба не мае рацыі АП, які рашуча развярнуў замежнапалітычныя аглоблі ў бок Расіі? Пытанне ў тым, што з пункту гледжання «Азбукі паліталогіі» цывілізацыі не з'яўляюцца статычнымі сацыяльнымі канструкцыямі. Яны нараджаюцца, растуць, дасягаюць сталасці, пасля чаго пачынаюць дэградаваць. У фінале цывілізацыю, якая дэградуе, чакае альтэрнатыва: яна можа даць жыццё новай цывілізацыі (антычная цывілізацыя спарадзіла заходне-хрысціянскую) ці будзе паглынутая іншай цывілізацыяй (узгадаем лёс Візантыі).

Хуткасць сацыяльных працэсаў сёння надзвычай высокая, і цывілізацыі, не здольныя змяняцца, асуджаныя на знікненне. Так, ад праваслаўнай цывілізацыі ўжо адпалі ўсе праваслаўныя ўсходнееўрапейскія краіны. Падмацую сказанае аўтарытэтам культуролага Ігара Яковенкі: «Расія да таго крызісу, які разгортваецца на нашых вачах, была краінай сутнасна ўчорашняй, бо ў Расіі не засвоены, не зацверджаны базавыя каштоўнасці сусветных краін-лідараў — еўраатлантычнай цывілізацыі. Для рускага чалавека, напрыклад, прыватная ўласнасць не святая. Для рускага чалавека не відавочна, што ўлада павінна быць пад законам, а не над законам».

За два апошніх дзесяцігоддзі з Расіі на Захад пераехала больш за 5 мільёнаў чалавек. Сярод іх пераважалі маладыя і адукаваныя людзі, большасць з іх дасягнулі поспеху ў новых умовах. Гэта азначае, што якасная дыстанцыя паміж «прасунутымі» рускімі і сярэднестатыстычнымі прадстаўнікамі заходняй цывілізацыі скарацілася да мінімуму. Але калі «прасунутыя» далучаюцца да чужой цывілізацыі, то якія шанцы «непрасунутых» захаваць канкурэнтаздольнасць сваёй? А галоўнае, якая перспектыва ў нас і ў нашых дзяцей ад цывілізацыйнага выбару, зробленага АП і К°?

ПРАБЛЕМА

# Павал Дземеш: ЛУКАШЭНКА СЫДЗЕ САМ…

**Былы міністр міжнародных справаў Славакіі, незалежны аналітык Павал Дземеш ведае, як выглядае «дарожная карта» з ініцыятывы беларускіх уладаў, у яго самая вялікая ў Славакіі калекцыя фотаздымкаў беларусаў, і ён не мае магчымасці прыехаць у Беларусь, бо ў справаздачы пасля назірання за выбарамі 2010 года напісаў, што бачыў. З экс-міністрам размаўляе журналістка НЧ Вольга Хвоін.**



**Павал Дземеш.** Дарадца прэзідэнта Славацкай Рэспублікі па пытаннях знешняй палітыкі (1993–1997), міністр міжнародных адносін (1991–1992), дырэктар Дэпартамента знешніх адносін у Міністэрстве адукацыі (1990–1991), дырэктар офісу нямецкага Фонду Маршала ў Браціславе (2000–2010). Незалежны аналітык.

***— Вы маеце вялікі досвед працы з няўрадавымі арганізацыямі. Беларускі трэці сектар часта абвінавачваюць у нізкай актыўнасці, што б вы маглі сказаць у абарону ці на крытыку недзяржаўных арганізацый Беларусі?***

— Самая вялікая праблема беларускага трэцяга сектару — ваша ўлада. Яна стварыла такія ўмовы, што Беларусь выключылі з Савета Еўропы, у вас не выконваюцца асноўныя правы чалавека. Рэжым Лукашэнкі — вось істотная праблема. Калі ў гэтых умовах прывезці ў Беларусь любых, нават самых добрых экспертаў, то яны не будуць лепшымі за тых людзей, якія працуюць у вашай краіне. Калі вы спытаеце, што робіць вашы палітычныя партыі не паспяховымі, вашых мастакоў — не надта вядомымі, а вашы ўніверсітэты — непапулярнымі і нізкарэйтынгавымі, то адказ будзе просты: у вас няма свабоды для творчасці, няма ўмоў для працы і развіцця грамадзянскіх структур. Аляксандра Лукашэнку нельга абвінавачваць, што ў краіне зімой больш холадна, чым летам. Але знайсці прычыну большасці праблем, якія ёсць у грамадстве, думаю, лёгка. Калі нехта тут абвінавачвае апазіцыю ці грамадзянскую супольнасць Беларусі ў нізкай актыўнасці, то я кажу: «Давай, ідзі і зрабі. Але ўспомні сябе ў 1989 годзе — якім мужным і гераічным ты быў».

***— Захад многа гадоў усякімі спосабамі імкнецца дапамагчы НДА, апазіцыйным палітыкам, а плёну мала. Ці ёсць сэнс працягваць гэтую падтрымку?***

— Пасля таго, як была разбураная «жалезная заслона», свет больш не быў падзелены на два полюсы, Захад пачаў дапамагаць усім посткамуністычным краінам. Некаторыя ведалі, як скарыстаць сітуацыю, — хто лепш, хто горш. У вас рэжым развіваўся інакш. І многа падыходаў, якія былі плённымі ў Польшчы, Чэхіі, Славакіі, Беларусь адкінула, не дазволіла ўплываць на ўнутраную сітуацыю. Многія праграмы партнёрства ваша ўлада бачыць як намер захапіць краіну. У выніку Беларусь прыйшла да самаізаляцыі, а любыя спробы аказваць падтрымку не мелі плёну. У выніку Захад прыйшоў да палітыкі санкцый і паралельнай падтрымкі грамадзянскай супольнасці. У нас у часы Уладзіміра Меч'яра таксама вострa ўспрымалася дапамога Захаду, выказвалася пазіцыя, што гэта супярэчыць інтарэсам краіны. Але наш рэжым не быў такім жорсткім, што ўвогуле забараняў падобныя праграмы супрацоўніцтва. Так, людзей, фонды абвінавачвалі, абзывалі «пятай калона», агентамі Захаду, іншымі словамі, якія вы добра ведаеце. Але ў нас не было такой моцнай сілы ў Меч'яра, і ў 1998 годзе яму сказалі «бывай». Цяпер ён недзе ў гарах Славакіі жыве, чаму мы і рады.

Нехта сказаў, што Уладзімір Меч'яр у параўнанні з Аляксандрам Лукашэнкам — як Маці Тэрэза. Рэжым Меч'яра быў іншым. Ён імкнуўся абмежаваць свабоду, але ў нас была свабода выказванняў, грамадзянскай ініцыятывы, замежныя арганізацыі мелі тут офісы і працавалі з намі. Аляксандр Лукашэнка стварыў рэжым, які не падобны да еўрапейскіх рэжымаў мінулага стагоддзя. У нас тады не было дыяспар, вымушаных эмігрантаў за мяжой. Цяпер жа Варшава і Вільнюс поўныя беларусаў, якія з аб'ектыўных прычынаў з'ехалі туды жыць і працаваць. Нікога з нас тады не білі, ніхто з нас не сядзеў у турме. Я заўжды кажу, што вашае грамадства вельмі мужнае. Вашы журналісты атрымалі самыя высокія сусветныя ацэнкі за сваю смеласць. Хутка кожны беларускі палітык, якога я ведаю, будзе мець у сваёй біяграфіі ці збіццё, ці турму. Вашых людзей трэба больш паважаць, чым крытыкаваць.

***— Вы былі знаёмыя з Аляксандрам Лукашэнкам асабіста?***

— У 1996 годзе я яго фатаграфаваў, калі быў на саміце ў АБСЕ ў Лісабоне. У мяне ўвогуле паралельны сямейны альбом з беларусамі, мяркую, самая вялікая калекцыя здымкаў беларусаў у Славакіі, гэта — мая. Асабіста з ім я не размаўляў. Тады ён хадзіў у акружэнні сваіх людзей.

***— Як мяркуеце, чалавек якой сілы і харызмы можа стаць яго сапраўдным супернікам?***

— Я думаю, што Лукашэнка знішчыць сам сябе. Ён змагаецца сам з сабой, і ніколі не пойдзе на шчырыя выбары. Ён ці сыдзе сам, ці нестандартным спосабам. Але не думаю, што прайграе на выбарах.

***— Што вы маеце на ўвазе пад «нестандартным спосабам»?***

— Вы добрыя партызаны (смяецца).

***—Кагоз цяперашніх палітыкаў вы бачыце як годную альтэрнатыву Лукашэнку?***

— Для мяне не стаіць пытанне, хто такі моцны, што зможа перамагчы ў спаборніцтве з Лукашэнкам. Калі б сітуацыя была нармальная, былі нармальныя выбары з доступам кандыдатаў да ўсіх СМІ, то любы здольны чалавек змог бы стаць прэзідэнтам Беларусі. Вам не трэба другі такі кіраўнік з моцнай уладай. Не трэба думаць, што прыйдзе другі чалавек і, як Ілья Мурамец, імгненна зробіць Беларусь лепшай. Калі сітуацыя будзе нармальнай, то беларусы змогуць абраць нармальных дэпутатаў у парламент, нармальнага прэзідэнта, нармальных кіраўнікоў. Гэта ўвогуле апошняе пытанне, над якім трэба цяпер думаць.

***— Цяпер ЕС у адносінах з афіцыйным Мінскам трымаецца палітыкі санкцый і падтрымкі грамадзянскай супольнасці. Гэтая тактыка прадуктыўная?***

— Яна самая лепшая, бо іншай няма. Гэтая сітуацыя з шэрагу такіх: вы падарожнічаеце па замежжы, прыязджаеце ў Брытанію, і ў пакоі гатэля не можаце далучыць да электрасеткі свой фен ці ноўтбук. Там іншая разетка. Вось і Аляксандр Лукашэнка стварыў свае ўмовы, пад якія нічога не падыходзіць. Можна колькі заўгодна спрачацца, чаму нейкія інструменты міжнародных узаемаадносінаў працавалі ў Польшчы ці Славакіі і не маюць плёну ў Беларусі, і адказ заўжды адзін — таму што!

***— Перыядычна заводзяцца размовы пра тое, што Еўрасаюзу варта было б стварыць для Беларусі «дарожную карту» — план па прасоўванні да ўрэгулявання канфлікту, — але гэта не зроблена.***

— Гаварыць пра дарожную карту для Беларусі — гэта ўсё адно, як бы вы сядзелі ў 1988 годзе перад «аксамітнай рэвалюцыяй» тут са мною і гаварылі пра «дарожную карту» для апазіцыі. Тут быў таталітарны рэжым, не было свабоды СМІ і гэтак далей. Вацлаў Гавел за месяц да «аксамітнай рэвалюцыі» не верыў, што камуністычны сацыялізм будзе зрынуты. Тое ж і ў вас. Хіба магчыма спрагназаваць учынкі вашых уладаў? За тыдзень да таго, як выпусцілі Саннікава і Бандарэнку, ніхто не мог гэтага прадказаць з упэўненасцю. Якая «дарожная карта»? Хто ў беларускія джунглі ўвогуле можа знайсці дарогу?

***— Вы неўязны ў Беларусь, за што?***

— Я быў у Беларусі падчас прэзідэнцкіх выбараў у якасці міжнароднага назіральніка. У сваёй справаздачы напісаў, што бачыў: пра людзей на вуліцы, пра міліцыю, пра збітых людзей, пра тое, што мне трэба было бегчы, каб самому не быць збітым. Мы пісалі потым пра гэта. Таксама падтрымлівалі праекты, людзей, якія потым патрапілі ў турмы. І ў выніку была рэкамендацыя не выдаваць мне візаў.

Я люблю вашу краіну больш, чым якую з постсавецкіх краінаў. Беларусы больш падобныя да славакаў, чым іншая нацыя, у нас падобная ментальнасць. Калі ў вас будзе нармальная сітуацыя, то нашы краіны адкрыюць сябе адна другой. Цяпер усе мае знаёмыя, хто бывае ў Беларусі, гавораць, што вельмі не хапае нам супрацоўніцтва.

Але ў дзень вашых прэзідэнцкіх выбараў не ўсё было сумна. Калі быў мітынг на плошчы Незалежнасці ля помніка Леніну, то выступоўцы падняліся на пляцоўку ля помніка і нешта гаварылі ў мікрафон. І вось нейкім чынам да мікрафона патрапіла Наталля Каляда са «Свабоднага тэатру», яна выгукнула: «Сябры, сёння Галівуд з намі!» Я ўпаў ад смеху. Яна, канешне, ведала пазіцыю акцёраў, якія падтрымліваюць Беларусь, але гэта так забаўна гучала. Галівуд з намі і Ленін з намі!

**Даведка:**



**Уладзімір Меч'яр.** Славацкі палітык і дзяржаўны дзеяч. У 1990 годзе быў абраны дэпутатам Федэральнага сходу Чэхаславакіі. Лідар Народнай партыі — Руху за дэмакратычную Славакію, у перыяд 1990–1998 тройчы займаў пасаду прэм'ер-міністра Славакіі, двойчы быў выконваючым абавязкі прэзідэнта Славакіі. Меч'яр прыйшоў у вялікую палітыку на хвалі антыкамуністычных настрояў, прадстаўляючы спачатку арганізацыю «Грамадскасць супраць гвалту» — славацкі аналаг «Грамадзянскага форуму». Аднак калі новае кіраўніцтва Чэхаславакіі абвясціла пра намеры праводзіць ліберальныя рынкавыя рэформы, у Славакіі было ўзнята пытанне аб атрыманні незалежнасці. Больш развітая ў эканамічным дачыненні Чэхія актыўна праводзіла рынкавыя рэформы. Пры Меч'яры рэформы праводзіліся асцярожна, прыватызацыя ажыццяўлялася павольна і са значнымі парушэннямі — многія з прыватызаваных прадпрыемстваў трапілі ў рукі чыноўнікаў з ліку прыхільнікаў самога Меч'яра і функцыянераў яго партыі. Меч'яра крытыкавалі за недэмакратычныя метады кіраўніцтва і папуліцкія выказванні.

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# КОЖНАМУ СВАЁ



**Міністэрства эканомікі прыняло пастановы Мінсельгасхарчу за №№20–21 аб вызначэнні фіксаваных цэн на прадукцыю раслінаводства ўраджаю 2012 года і цэн на прадукцыю жывёлагадоўлі, што закупаецца для дзяржаўных патрэб.**

На думку спецыялістаў Мінэканомікі, гэта зроблена ў мэтах абмежавання падвышэння коштаў на сельскагаспадарчую сыравіну для прамысловай перапрацоўкі. Хто вывучаў філасофію, павінен ведаць: калі да справы падысці дыялектычна, то відавочнае падаражанне можна падаць як памяншэнне кошту. Прыкладам, у каментары сказана, што да гэтага моманту дзейнічалі мінімальныя закупачныя цэны на прадукцыю для дзяржаўных патрэб. Але фактычна закупачныя цэны нашмат пераўзыходзілі намінальныя і розніліся паміж сабой у залежнасці ад мясцовых умоў. Мусіць, там, дзе надоі ды прывесы атрымоўваліся меншымі, закупачныя цэны былі больш высокімі. І наадварот, калі хто мяса больш вырабляў, то куплялі яго па меншай цане.

Зараз жа цэны ўстаноўлены для ўсіх вытворцаў аднолькавыя, а хлеб новага ўраджаю будуць купляць у гаспадарак з улікам падаражання матэрыяльных рэсурсаў для яго вытворчасці. Калі гэта так, то трэба зазначыць — падаражанне было вельмі значнае. Бо, прыкладам, цэны на піваварны ячмень узрастуць у 2,9 разу, алейнае семя рапсу нават у 3,1 разу, на грэчку — у 2,1 разу.

Не зусім зразумела з грэчкай. Яна была цэнавым лідарам і прадуктам-індыкатарам рэальнага стану эканомікі два апошнія гады, і зараз яе зноў адпраўляюць у вольнае плаванне пад стальны дождж высокіх цэн?

Значна (у 1,7–2 разы) падвышаюцца закупачныя цэны на малако кароў, на буйную рагатую жывёлу, яе мяса, свіней і свініну, якія рэалізуюцца для дзяржаўных патрэб.

Вызначэнне «дзяржаўныя патрэбы» не адлюстроўвае нечага патаемнага — гэта звычайнае фармаванне бягучага запасу харчавання і закупкі сыравіны для яе перапрацоўкі. Не абавязкова на дзяржаўных прадпрыемствах. Дарэчы, большасць з іх ужо прыватызаваныя ці раздзяржаўленыя. А сельскагаспадарчыя арганізацыі, за выключэннем нейкіх спецыялізаваных, амаль цалкам з'яўляюцца кааператыўнымі або прыватнымі. Увогуле, сельская гаспадарка, перапрацовачная галіна, зрэшты, дый рознічны гандаль, з'яўляюцца сферамі, у якіх амаль цалкам дзейнічае прыватны капітал. Але і дзяржава адтуль не сыходзіла.

Па-першае, яна ажыццяўляе датацыі сельскагаспадарчай вытворчасці, вызначае кошты рэсурсаў для сельгаспрадпрыемстваў, і таму ўстанаўлівае закупачныя цэны на сельгаспрадукцыю. Па-другое, з'яўляецца натуральным манапалістам, які вызначае накірункі развіцця не толькі асобных прадпрыемстваў, але і ўсёй галіны, не толькі буйных кааператываў, але і фермерскіх гаспадарак. Бо вольны хлебароб-фермер, свабодны ад плану і дыктату, мае патрэбу ў рынку збыту. Часцей за ўсё, памеры вытворчасці ў фермера невялікія, але дастатковыя, каб аддаць перавагу аптоваму продажу сваёй прадукцыі дзяржструктурам перад уласным дробным гандлем у розніцу.

А бывае так, што адмовяцца купляць — і амаль усе выробленае фермерам ідзе ў глум.

Элеватары дзяржаўныя, лядоўні дзяржаўныя, млыны дзяржаўныя (ці кантралююцца дзяржавай) — таму нягледзячы на ўяўную шматлікасць розных прадпрыемстваў розных форм, у краіне, як і раней, пануе аграрны сацыялізм, які не мае дачынення да рынкавай эканомікі, таму ніякай гаворкі пра эфектыўнасць не было і не будзе. Прыкладам, зразумела, што падвышэнне закупачных цэнаў будзе з цягам часу забяспечана падвышэннем рознічных цэнаў і аплачана пакупнікамі. І што зробіш — аграрнікі таксама людзі і маюць патрэбу ў заробках. Але ў гэтай справе дзейнічае нейкі інструмент-абмежавальнік. Колькі б ні падвышаліся кошты на мяса ды малако, заробкі калгаснікаў стабільна складаюць 60% ад сярэдніх па краіне.

Вядома, што нашы суседзі купляюць нафту і газ па цэнах нашмат больш высокіх. Але пры гэтым, як паказвае ўласны досвед і статыстычныя справаздачы, у сярэднім прадукцыя для харчавання ў іх каштуе танней. А калі параўнаць пакупніцкую здольнасць заробкаў, атрымліваецца, што жывуць яны амаль як пры камунізме. І пры гэтым дакладна вядома, што не забіваюцца ў бітвах за ўраджай, што іх кіраўнікі не з'яўляюцца сельскагаспадарчымі адмыслоўцамі, што там сялянам ніхто «каштоўнымі ўказаннямі» мазгі не парыць, ніхто былой ідэалагічнай адданасці ад сялян не патрабуе.

На сёлетнім «Зялёным тыдні» ў Берліне я пацікавіўся ў федэральнага міністра харчавання, сельскай гаспадаркі і абароны правоў спажыўцоў Германіі наконт лёсу сельскагаспадарчых кааператываў былой ГДР. Спадарыня Ільзэ Айгнэр, крыху здзівіўшыся, адказала, што ўсе яны знайшлі сябе ў рынкавай эканоміцы. Праз колькі дзён давялося пабываць у двух такіх гаспадарках. Адну выкупіў малады чалавек, грамадзянін Галандыі, і арганізаваў паспяховую малочную жывёлагадоўлю па сучасных тэхналогіях.

На іншым прадпрыемстве сяляне захавалі форму таварыства і вярнулі вытворчасць да традыцыйных тэхналогій сялянскага двара. У іх усё сваё, усё экалагічнае, таму яны вырабляюць цудоўную ялавічыну, якую апаратыўна (мегаполіс пад бокам) развозяць па берлінскіх рэстаранах.

Лічы, былы (хоць і нямецкі) калгас, а корміць людзей мармуровай ялавічынай.

ДЫПЛАМАТЫЯ

# ЕС ХОЧА ВЯРНУЦЬ ПАСЛОЎ У МІНСК

Вольга ХВОІН

**Дыпламаты Еўрасаюза вядуць перамовы аб вяртанні ў Беларусь амбасадараў краін ЕС. Мяркуецца, што рашэнне будзе прынятае пасля пасяджэння міністраў замежных спраў краін ЕС, якое прызначанае на 23 красавіка.**



Марыян Серватка



Марыян Якубоцы

«Мы цяпер абмяркоўваем магчымасці вяртання паслоў краін Еўрасаюза ў Беларусь. Мы хочам, каб яны вярнуліся. Без паслоў нам не абысціся. Іх намеснікі — добрыя дыпламаты, але каб пасольства нармальна працавала, то неабходны пасол, прадстаўнік краіны», — заявіў дырэктар аддзела Усходняй Еўропы Міністэрства замежных спраў Славакіі Марыян Якубоцы.

Дыпламат адзначыў, што тэрміны вяртання пакуль не вызначаныя. «Спачатку ў нас была пазіцыя: чым раней вернуцца, тым лепш. Мы адклікалі паслоў на знак салідарнасці з высылкай з Беларусі пасла ЕС Майры Моры і пасла Польшчы Лешака Шарэпкі. Мы хацелі паказаць адзінства нашай палітыкі, — патлумачыў спадар Марыян Якубоцы. — Цяпер дыскусія: вяртацца паслам трэба да 23 красавіка, калі будзе пасяджэнне міністраў замежных спраў краін ЕС, ці пасля. У нас склалася меркаванне, што вяртацца ім трэба пасля. Але на працягу некалькіх дзён. Ёсць, канешне, пытанне, як гэта арганізаваць — усім разам ці не ўсім. Канешне, сваю ролю адыграла і тое, што выпусцілі палітвязняў Дзмітрыя Бандарэнку і Андрэя Саннікава. Нас гэта ўзрадавала і па-чалавечы — людзі не будуць сядзець у турме, а могуць вярнуцца да сваіх сем'яў у нармальнае жыццё. Але гэта толькі пачатак працэсу — трэба, каб усе палітычныя вязні выйшлі на свабоду».

Славацкі дыпламат падкрэсліў, што не менш важнай умовай ёсць рэабілітацыя палітвязняў у правах, адмена судзімасці.

Дырэктар аддзела Усходняй Еўропы Міністэрства замежных спраў Славакіі Марыян Якубоцы зазначыў, што пакуль не абмяркоўвалася, ці будуць часткова знятыя санкцыі Еўрасаюзам у адказ на крокі беларускіх уладаў. Але сітуацыя будзе адсочвацца. «ЕС жыве ў тым ліку і па законах дэмакратыі. Каб унесці нейкае пытанне на разгляд чыноўнікаў, то трэба ацэньваць, наколькі яно важнае. Пакуль трэба назіраць за абстаноўкай. Можна ўнесці гэтае пытанне на разгляд, але што мы будзем абмяркоўваць?» — патлумачыў славацкі дыпламат.

Разам з тым Марыян Якубоцы лічыць санкцыі эфектыўным інструментам. «Вельмі складана, каб эканамічныя санкцыі былі накіраваныя толькі на рэжым. Для нас важна, каб уплыў гэтых санкцый на простых грамадзян быў мінімізаваны. І такі падыход знайсці няпроста. Наколькі эфектыўныя гэтыя санкцыі? 23 сакавіка была сустрэча міністраў МЗС краін ЕС. А 14 і 15 красавіка на свабоду выйшлі двое палітвязняў. Я бачу ўплыў санкцый», — падкрэсліў дыпламат.

Спадар Якубоцы адзначыў, што, хаця ў краіне на пачатку красавіка і змянілася кіраўніцтва, пазіцыя Славакіі ў дачыненні да Беларусі застаецца нязменнай.

— Урад змяніўся, але нашая краіна застаецца ў Еўрасаюзе. І нашы адносіны да таго, што адбываецца ў Беларусі, засталіся ранейшымі. Я не бачу прычынаў іх змяніць, бо ў Беларусі няма пераменаў. Трэба, каб вязні сумлення былі як мага хутчэй вызваленыя з турмаў.

Надзвычайны і паўнамоцны пасол Рэспублікі Славакія ў Беларусі Марыян Серватка падчас сустрэчы з журналістамі ў Браціславе заўважыў, што дыпламатыя — гэта крыху мастацтва. «Я хачу вярнуцца, бо я пасол у Беларусі, а не тут. Я спадзяюся, што гэта быў кароткі ад'езд, а вяртанне будзе спакойным», — сказаў амбасадар Славакіі ў Беларусі. Ён падкрэслівае, што Славакія і Беларусь — малавядомыя адна адной, таму трэба наладжваць міждзяржаўныя сувязі. «Наш грамадзянін ведае пра Беларусь столькі ж, колькі ваш пра Славакію», — пашкадаваў дыпламат. Ён распавёў, што са свайго боку рабіў крокі насустрач грамадзянам, якія звярталіся ў пасольства па візы. Напрыклад, летась адна трацiна візаў, якія выдавала пасольства Славакіі ў Беларусі, былі бясплатнымі.

Але цікава, што кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Уладзімір Макей, нягледзячы на саступкі афіцыйнага Мінска, то бок вызваленне двух вязняў сумлення, вельмі крытычна выказаўся на тэму дыпламатычнага канфлікту паміж Мінскам і Брусэлем.

«Еўрасаюз у свой час сам адклікаў сваіх паслоў, і сёння рэальнасць такая, што не мы просім, а Еўрасаюз просіць нас дазволіць паслам вярнуцца ў Беларусь. І не толькі просіць, а патрабуе і нават пагражае новымі санкцыямі. Наша пазіцыя наконт гэтага вядомая. Мы не з'яўляемся ні ў якой меры прыхільнікамі эскалацыі напружанасці. Наадварот, мы заявілі аб тым, што гатовы да дыялога з Еўрасаюзам на ўсіх узроўнях, але што датычыцца вяртання паслоў, то мы лічым, што яны павінны вярнуцца тады, калі для гэтага будуць адпаведныя ўмовы. А менавіта, калі ў Еўрасаюзе ўсвядомяць памылковасць палітыкі шантажу, дыктату, санкцый у адносінах да Рэспублікі Беларусь і прыйдуць да разумення неабходнасці дыялога з Беларуссю.

Што сёння адбываецца? Сёння выстаўляюцца новыя патрабаванні. Гавораць, што засталося паўтара або два дзясяткі нейкіх палітычна зняволеных, якіх, цытую, «трэба неадкладна вызваліць, неадкладна рэабілітаваць». У гэты спіс уключылі нават радыкальных рэвалюцыянераў-анархістаў, якія закідалі расійскае пасольства бутэлькамі з запальнай сумессю, кактэйлямі Молатава. Паводле інтэрпрэтацыі Еўрасаюза, заўтра гэты спіс можа разрасціся і да 50–60 чалавек. Таму такія патрабаванні — гэта шлях нікуды. Ніякага вызвалення пад націскам не будзе. Ніякай рэабілітацыі па еўрасаюзаўскаму загаду — таксама не будзе. Гэта ўсе павінны добра разумець. Але нават тыя ж самыя адпушчаныя былыя зняволеныя ў сваіх хадайніцтвах чорным па белым напісалі аб прызнанні сваёй віны і аб раскаянні.

Таму вяртанне паслоў у Беларусь магчыма тады, калі, паўтаруся, у Еўрасаюзе прыйдуць да разумення неабходнасці размовы з Беларуссю аб адмене санкцый, а самі паслы, калі яны маюць намер вярнуцца, будуць гатовыя размаўляць не на мове шантажу і пагроз, а на мове дыялога, як таго патрабуюць адпаведныя канвенцыі аб дыпламатычных зносінах», — цытуе словы Уладзіміра Макея БелТА.

Нагадаем, цяпер у спісе палітвязняў Беларусі трынаццаць чалавек. Ёсць канкрэтныя крытэрыі, паводле якіх асуджанага чалавека вызначаюць як палітзняволенага. Звычайна, такую ацэнку даюць праваабаронцы, што адсочваюць спрэчныя справы, а не Еўрасаюз, як пра тое заявіў Уладзімір Макей.

7

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

TV

## 23 КРАСАВІКА, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 Беларусь

**07.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.05** Клуб рэдактараў.
**10.45** Тэлефільм «Навагрудак: ля вытокаў дзяржаўнасці» цыклу «Зямля беларуская».
**11.05** Мультфільм «Казка пра цара Салтана».
**12.10** Камедыйны серыял «Сваты-5» (Украіна).
**14.15** Мультфільм «Маша і Мядзведзь» (Расія).
**14.25** Арэна.
**15.10** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Мультфільмы.
**16.15** Прыгодніцкі фільм «Зялёны фургон» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**19.10** Камедыя «Самалётам, цягнікам, машынай» (ЗША).
**21.00** Панарама.
**21.35** Форум.
**22.35** Дзённік «Еўрабачання».
**22.45** Крымінальны баявік «Гнеў» (ЗША).
**01.15** Дзень спорту.

### ОНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здорава!».
**11.10** Камедыя «Гараж».
**13.00** «Павел Луспекаеў. Граната не той сістэмы».
**14.00** Фільм «Перакрыжаванне».
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Зваротны адлік».
**16.55** Фільм «Карсіканец».
**18.40** Фільм «Урокі кіравання».
**20.30** Нашы навіны.
**20.55** Навіны спорту.
**21.00** «Клуб Вясёлых Знаходлівых». Вышэйшая ліга.
**23.20** Прэм'ера. Фільм «Крымінальная фішка Генры».

### СТВ

**07.00** Фільм «Скарб». Украіна, 2007 г.
**08.30** «Тыдзень».
**09.40** «Вялікі сняданак».
**10.20** «Прошаная вячэра».
**11.20** «Гарачы лёд».
**11.55** Фільм «Таямніца каралевы Ганны, або мушкецёры 30 гадоў пасля». Расія 1993 г.
**14.40** «Вялікі горад».
**15.15** «Зорны рынг».
**16.45** «Наша справа».
**16.55** «Прошаная вячэра».
**17.30** Фільм «Лясун». Расія, 2007 г.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Аўрора». Украіна, 2006 г.
**22.20** «Прафесійны бокс».
**23.20** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**00.10** «Пякельная кухня».

### 2 Беларусь

**06.55** Дакументальны фільм «Палітра бацькі» («Беларусьфільм»).
**07.25** «Яны ваявалі за Радзіму» (СССР).
**10.05** Тэлебарометр.
**10.10** Прыгодніцкі фільм «Гаспадар мораў: На краі зямлі» (ЗША).
**12.30** Навіны надвор'я.
**13.05** Школа рамонту.
**14.10** «Смех з дастаўкай на дом». Гумарыстычная праграма (Расія).
**15.45** Меладрама «Каханне зямное» (СССР).
**17.35** Камедыя «На спіне ў чорнага ката».
**19.15** Хакей. КХЛ. Фінал. Матч 6-ы.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Меладрама «Памятай мяне» (ЗША).
**23.35** Авертайм.
**00.05** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. Агляд тура.

### НТВ

**05.00** Навіны Садружнасці.
**05.05** Праграма «Мільён пытанняў аб прыродзе».
**05.20** Праграма «Даведнік».
**06.00** Навіны Садружнасці.
**06.05** Мультсерыял «Фархат, прынц Персіі».
**06.40** Праграма «Цік – так».
**07.00** Навіны Садружнасці.
**07.05** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**08.00** Навіны Садружнасці.
**08.05** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.05** Вынiковая праграма «Разам».
**10.00** Навіны Садружнасці.
**10.05** Мастацкі фільм «Год цяля».
**11.00** Навіны Садружнасці.
**11.05** Мастацкі фільм «Год цяля» (Працяг).
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.20** Дак. фільм «Цюркі Расіі».
**13.30** Мультсерыял «Прыгоды майстра Кун-фу».
**13.55** Тэлесерыял «Старшакласнікі».
**14.30** Тэлесерыял «Мая радня».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.25** Тэлесерыял «Сэрцу не загадаеш».
**17.00** Навіны Садружнасці.
**17.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.25** Праграма «Акцэнты».
**18.40** Праграма «Саюзнікі».
**19.20** Праграма «Усюды жыццё».
**19.50** Праграма «Сардэчна запрашаем».
**20.30** Праграма «Беларусь сёння».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.30** Праграма «Свет спорту».
**22.00** Навіны Садружнасці.
**22.25** Дак. фільм «Цюркі Расіі».
**00.00** Навіны Садружнасці.
**00.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**00.00** Навіны Садружнасці.
**00.05** Тэлесерыял «Нашы суседзі».
**01.00** Навіны Садружнасці.
**01.05** Тэлесерыял «Нашы суседзі».
**02.00** Праграма «Саюзнікі».
**02.40** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**04.25** Праграма «Свет спорту».

### Discovery Channel

**08.25** Брудная работка.
**09.15** Смяротны ўлоў.
**11.05** Дзёрзкія праекты.
**12.00** З чаго гэта зроблена?
**12.30** Вокамгненныя катастрофы.
**12.55** Выжыць любым коштам.
**13.50** Махінатары.
**15.40** Амерыканскі чопер.
**16.35** Брудная работка.
**17.30** Смяротны ўлоў.
**19.20** Дзёрзкія праекты.
**20.15** Выжыць любым коштам.
**21.10** Як гэта працуе.
**23.00** Дарога тарнада.
**23.55** Выжыць у катастрофе.
**00.50** Мяжа трываласці.
**01.45** Разбуральнікі легенд.
**03.40** Дарога тарнада.
**04.40** Выжыць у катастрофе.
**05.40** Мяжа трываласці.
**06.35** Як гэта працуе.

### Eurosport

**00.00** Веласпорт: Нацыянальны тур. - 1-ы этап.
**01.00, 02.15, 09.30** Аўта і Мотаспорт: Мотаспартыўны часопіс.
**01.15** Розныя баявыя мастацтвы.
**09.45** Супербайк: Чэмпіянат свету. Нідэрланды – 1-я спроба.
**10.15** Супербайк: Чэмпіянат свету. Нідэрланды – 2-я спроба.
**11.00** Снукер: Чэмпіянат свету. Шэфілд - Дзень 2.
**12.00** Снукер: Чэмпіянат свету. Шэфілд - Дзень 3.
**15.00** Веласпорт: Нацыянальны тур. - 2-і этап.
**16.30** Снукер: Чэмпіянат свету. Шэфілд - Дзень 3.
**19.45** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**20.00** Футбол: Еўрагалы.
**21.00** Снукер: Чэмпіянат свету. Шэфілд - Дзень 3.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**06.50** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**07.30** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**08.00** «У сэрцы пракаветнай пушчы», дак. серыял: 4 серыя.
**08.30** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**08.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**08.55** «Час гонару», серыял.
**09.40** «Каралеўства шчасця – Бутан: дзяржава ў Гімалаях», дак. фільм, 2008 г., Германія.
**10.25** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма).
**10.40** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**11.10** «Прадаецца!», дак. фільм, 2008 г., Балгарыя.
**12.40** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**12.55** «У сэрцы пракаветнай пушчы», дак. серыял: 4 серыя.
**13.25** «Катка», дак. фільм, 2010 г., Чэхія.
**14.55** «Час гонару», серыял.
**15.45** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**16.15** «Каралеўства шчасця – Бутан: дзяржава ў Гімалаях», дак. фільм, 2008 г., Германія.
**17.05** «Мой родны горад», серыял: 37 серыя.
**17.30** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**17.40** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**18.40** «89 міліметраў ад Еўропы», рэпартаж, 1993 г., Польшча.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Гарачы каментар.
**19.20** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Маю права (юрыдычная праграма).
**20.25** «Тэра постсаветыка. Чорны палітык у Расеі», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**21.55** Фільматэка майстроў: «Блізкія незнаёмцы», маст. фільм, 2004 г., Францыя.
**23.35** Аб'ектыў.
**00.00** Гарачы каментар.

## 24 КРАСАВІКА, АЎТОРАК

### 1 Беларусь

**06.50** Слова Мітрапаліта Філарэта.
**07.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Мультфільмы.
**09.30** Лірычная камедыя «Па сямейных абставінах» (СССР). 1-я і 2-я серыі
**12.10** Камедыйны серыял «Сваты-5» (Украіна).
**14.15** Мультфільм «Маша і Мядзведзь» (Расія).
**14.25** Сфера інтарэсаў.
**15.10** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Народная камедыя «Белыя Росы» («Беларусьфільм»).
**17.15** Меладрама «Прабачэнне» (Расія-Украіна).
**19.10** Трылер «Кантроль зямлі» (ЗША).
**21.00** Панарама.
**21.35** Баявік «Мексіканец» (ЗША).
**23.45** Дзень спорту.

### ОНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.10** Фільм «Справа была ў Пянькове».
**11.55** Фільм «Белыя росы».
**13.35** Фільм «Чорны замак Альшанскі».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Фільм «Анастасія Слуцкая».
**18.20** Драма «Жыццё ў ружовым колеры».
**20.30** Нашы навіны (з субтытрамі).
**20.55** Навіны спорту.
**21.00** Фільм «Калі толькі».
**22.50** Драма «Імгненні жыцця».

### СТВ

**07.00** Фільм «Дэкан Спенлі». Вялікабрытанія-Новая Зеландыя, 2008 г.
**08.40** Фільм «Аўрора». Украіна, 2006 г.
**10.35** «Прошаная вячэра».
**11.30** Фільм «Вяртанне мушкецёраў». Расія, 2008 г.
**15.15** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Прошаная вячэра».
**17.35** Фільм «Лясун 2». Расія, 2007 г.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** Фільм «Бьюціфул». Іспанія-Мексіка, 2009 г.
**22.40** «Небяспечны месяц».
**23.10** «Аўтапанарама».
**23.30** «Сакрэтныя тэрыторыі».

### 2 Беларусь

**07.05** Дакументальны фільм «Край белавежскі» («Беларусьфільм»).
**07.20** Драма «Іван» («Беларусьфільм»).
**08.40** Тэлебарометр.
**08.45** Меладрама «Каханне зямное» (СССР).
**10.30** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**11.20** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. Агляд тура.
**12.15** Авертайм.
**12.55** Драма «Іван» («Беларусьфільм»).
**14.20** Дакументальны фільм «Неразгаданыя людзі» («Беларусьфільм»).
**14.50** «Лёс» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**17.55** Меладрама «Пачаць спачатку. Марта» (Расія-Украіна). 1-я – 4-я серыі.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Паўфінал. Барселона–Чэлсі. Прамая трансляцыя.
**23.40** Трылер «Зззянне» (ЗША).

### НТВ

**05.00** Навіны Садружнасці.
**05.05** Праграма «Простая мова».
**05.20** Дакументальны серыял «Дом з гісторыяй».
**06.00** Навіны Садружнасці.
**06.05** Мультсерыял «Фархат, прынц Персіі».
**06.40** Праграма «Цік – так».
**07.00** Навіны Садружнасці.
**07.05** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**08.00** Навіны Садружнасці.
**08.05** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.05** Праграма «Агульны рынак».
**09.25** Праграма «Агульны інтарэс».
**10.00** Навіны Садружнасці.
**10.05** Мастацкі фільм «Будзь здаровы, дарагі!».
**11.00** Навіны Садружнасці.
**11.05** Мастацкі фільм «Будзь здаровы, дарагі!» (Працяг).
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.20** Дакументальны фільм «Цюркі Расіі».
**13.30** Мультсерыял «Прыгоды майстра Кун-фу».
**13.55** Тэлесерыял «Старшакласнікі».
**14.30** Тэлесерыял «Мая радня».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.25** Чорны красавік. Дзень памяці Генацыду армян у Асманскай імперыі. Трансляцыя з Ерэвана.
**16.10** Тэлесерыял «Сэрцу не загадаеш».
**17.00** Навіны Садружнасці.
**17.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.25** Праграма «Акцэнты».
**18.40** Тэлесерыял «Неба і зямля».
**20.45** Праграма «Простая мова».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.25** Праграма «Дыяспары».
**22.00** Навіны Садружнасці.
**22.05** Дакументальны фільм «Цюркі Расіі».
**23.00** Навіны Садружнасці.
**23.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**00.00** Навіны Садружнасці.
**00.05** Тэлесерыял «Нашы суседзі».
**01.00** Навіны Садружнасці.
**01.05** Тэлесерыял «Нашы суседзі».
**02.00** Праграма «Усюды жыццё».
**02.40** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**04.25** Праграма «Дыяспары».

### Discovery Channel

**08.25** Брудная работка.
**09.15** Смяротны ўлоў.
**11.05** Дзёрзкія праекты.
**12.00** З чаго гэта зроблена?
**12.30** Вокамгненныя катастрофы.
**12.55** Выжыць любым коштам.
**15.40** Амерыканскі чопер.
**16.35** Брудная работка.
**17.30** Смяротны ўлоў.
**19.20** Дзёрзкія праекты.
**20.15** Выжыць любым коштам.
**21.10** Як гэта працуе.
**23.00** Рыба-меч.
**01.45** Разбуральнікі легенд.
**03.40** Рыба-меч.
**06.35** Як гэта працуе.

### Eurosport

**00.00** Футбол: Еўрагалы.
**01.00** Снукер: Чэмпіянат свету. Шэфілд - Дзень 3.
**09.30** Футбол: Еўрагалы.
**10.30** Лёгкая атлетыка.
**10.45** Снукер: Чэмпіянат свету. Шэфілд - Дзень 3.
**12.00** Снукер: Чэмпіянат свету. Шэфілд - Дзень 4.
**15.00** Веласпорт: Нацыянальны тур. – 3-і этап.
**16.30** Снукер: Чэмпіянат свету. Шэфілд - Дзень 4.
**19.30** Тэніс: Турнір WTA. Штутгарт - Дзень 2.
**21.15** Снукер: Чэмпіянат свету. Шэфілд - Дзень 4.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**07.35** «Каханкі маёй мамы», маст. фільм, 1985 г., Польшча.
**09.10** «Мой родны горад», серыял: 37 серыя.
**09.35** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.00** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**10.15** «Тэра постсаветыка. Чорны палітык у Расіі», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**10.40** МакраФон: «Minsk-Mixt–2008»: Канцэрт гурта «Джамбібум».
**11.15** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**11.40** «Ранча», серыял: 50 серыя.
**12.30** «Мой родны горад», серыял: 37 серыя.
**12.55** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**13.20** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма).
**13.30** «Тэра постсаветыка. Чорны палітык у Расіі», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**13.05** МакраФон: «Minsk-Mixt–2008»: Канцэрт гурта «Джамбібум».
**14.30** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**14.55** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**15.10** «Каханкі маёй мамы», маст. фільм, 1985 г., Польшча.
**16.45** «Пўаро Агаты Крысці», дэтэктыўны серыял: 15 серыя.
**17.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**18.40** «Мой Кесьлёўскі», дак. фільм, Польшча.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**19.20** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**20.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**20.40** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Сальда (эканамічная праграма).
**21.40** Невядомая Беларусь: «Дзень памінання», дак. фільм, 2011 г., Беларусь.
**22.05** «Бландзінка», серыял: 4 серыя.
**22.55** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**23.20** Жаўтуха (сатырычная праграма).
**23.45** Аб'ектыў.
**00.10** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 25 КРАСАВІКА, СЕРАДА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.55** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Прыгодніцкі серыял «Добрыя хлопцы» (Украіна-Расія). 1-я серыя.
**10.00** Сфера інтарэсаў.
**10.30** Каробка перадач.
**11.00** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.00** Дакументальны цыкл «Сваты. Жыццё без грыму» (Украіна).
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Дэтэктыў «Прэзумпцыя віны» (Расія-Украіна).
**17.20** Меладраматычны серыял «Маруся».
**18.15** Зямельнае пытанне.
**18.45, 00.10** Зона Х.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Меладраматычны серыял «Калі яе зусім не чакаеш.» (Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Прыгодніцкі серыял «Добрыя хлопцы» (Украіна-Расія). 1-я серыя.
**23.00** Серыял «Абдуры мяне» (ЗША). 1-я серыя.
**00.20** Дзень спорту.
**00.35** Дэтэктыў «Прэзумпцыя віны» (Расія-Украіна).

### Н

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.10** «Права на абарону».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.00** «Два колеры запалу». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Крымінальныя хронікі».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Адрыў». Шматсерыйны фільм.
**22.10** «Закрытая школа». Шматсерыйны фільм.
**23.15** «Вячэрні Ургант».
**23.50** Асяроддзе пасялення.
**00.50** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**09.30** «Аўтапанарама».
**10.00** «Цэнтральны рэгіён».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**13.50** «Дарагая перадача».
**14.00** Фільм «Бьюціфул». Іспанія-Мексіка, 2009 г.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** «Вялікая нафта». Серыял.
**21.25** «Забойная сіла». Серыял.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Мінск і мінчане».
**23.35** «Дабро пажаліцца».
**00.00** «Навошта табе алібі?». Серыял.
**00.50** «Дзіўная справа».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Ясі і худзей.
**09.35** Цела чалавека.
**10.10** Серыял «Гарачы лёд».
**11.10** Наперад у мінулае.
**11.45** Кінаспробы.
**12.25** Бухта капітанаў.
**13.05** Дак. фільм «Мінскі трамвай».
**13.15** Кінараман «Лёс» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**16.20** «Альбарутэнія».
**16.55** Ваенна-шпіёнскі дэтэктыў «Выратуйце нашы душы» (Расія). 1-я серыя.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Пад грыфам «Вядомыя».
**19.30** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**20.10** Тэлебарометр.
**20.15** Беларуская часіна.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Рэал – Баварыя. Паўфінал. Прамая трансляцыя.
**23.40** Ваенна-шпіёнскі дэтэктыў «Выратуйце нашы душы» (Расія).

###

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00, 23.00, 00.00, 01.00** Навіны Садружнасці.
**05.05** Праграма «Кыргызтан у асобах».
**05.20** Праграма «На шашлыкі».
**06.05** Мультсерыял «Фархат, прынц Персіі».
**06.40** Праграма «Цік – так».
**07.05** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**09.05** Праграма «Кыргызтан у асобах».
**09.25** Праграма «Даведнік».
**10.05** Мастацкі фільм «Лета радавога Дзедава».
**11.05** Мастацкі фільм «Лета радавога Дзедава» (Працяг).
**12.20** Дак. фільм «Цюркі Расіі».
**13.30** Мультсерыял «Крыштальная маска».
**13.55** Тэлесерыял «Старшакласнікі».
**14.30** Тэлесерыял «Мая радня».
**15.25** Тэлесерыял «Сэрцу не загадаеш».
**17.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**18.25** Праграма «Акцэнты».
**18.40** Тэлесерыял «Неба і зямля».
**20.45** Праграма «Кыргызтан у асобах».
**21.25** Праграма «Сакрэтныя матэрыялы».
**22.05** Дак. фільм «Цюркі Расіі».
**23.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**00.05** Тэлесерыял «Нашы суседзі».
**02.00** Праграма «Сардэчна запрашаем».
**02.40** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**04.25** Праграма «Сакрэтныя матэрыялы».

### Discovery CHANNEL

**08.25** Брудная работка.
**09.15** Смяротны ўлоў.
**11.05** Дзёрзкія праекты.
**12.00** З чаго гэта зроблена?
**12.30** Вокамгненныя катастрофы.
**12.55** Выжыць любым коштам.
**14.45** Круты цюнінг 2008.
**15.40** Амерыканскі чопер.
**16.35** Брудная работка.
**17.30** Смяротны ўлоў.
**19.20** Дзёрзкія праекты.
**20.15** Выжыць любым коштам.
**21.10** Як гэта працуе.
**00.50** Адпачываючая нацыя.
**01.45** Разбуральнікі легенд.
**05.40** Адпачываючая нацыя.
**06.35** Як гэта працуе.

### EUROSPORT

**00.00** Тэніс: Турнір WTA. Штутгарт - Дзень 2.
**01.00** Аўтагонкі: Суперкубак Паршэ. Бахрэйн - Гонка №2.
**01.30** Снукер: Чэмпіянат свету. Шэфілд - Дзень 4.
**09.30** Футбол: Еўрагалы.
**09.45** Тэніс: Турнір WTA. Штутгарт - Дзень 2.
**11.00** Снукер: Чэмпіянат свету. Шэфілд - Дзень 4.
**12.00** Снукер: Чэмпіянат свету. Шэфілд - Дзень 5.
**15.00** Веласпорт: Нацыянальны тур. – 4-ы этап.
**16.30** Снукер: Чэмпіянат свету. Шэфілд - Дзень 5.
**19.30** Тэніс: Турнір WTA. Штутгарт - Дзень 3.
**21.15** Снукер: Чэмпіянат свету. Шэфілд - Дзень 5.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**07.35** «Пўаро Агаты Крысці», дэтэктыўны серыял: 15 серыя.
**08.35** Два на два (тэледыскусія).
**09.00** На колах.
**09.25** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**09.50** Сальда (эканамічная праграма).
**10.05** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**10.35** «Прадаецца!», дак. фільм, 2008 г., Балгарыя.
**12.05** «Ранча», серыял: 51 серыя.
**12.55** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**13.20** «Пўаро Агаты Крысці», дэтэктыўны серыял: 15 серыя.
**14.20** Два на два (тэледыскусія).
**14.45** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**15.15** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**15.40** Сальда (эканамічная праграма).
**15.55** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**16.25** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**16.40** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**17.05** «Школа на санцапёку», серыял: 14 серыя.
**17.35** Невядомая Беларусь: «Дзень памінання», дак. фільм, 2011 г., Беларусь.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Дарога да пекла», дак. фільм, 2008 г. Беларусь: ч. 1.
**18.40** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**19.20** Сальда (эканамічная праграма).
**19.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Праект «Будучыня» (навукова-папулярны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.35** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**20.40** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Без рэтушы: «Радаводны знак», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**21.45** «Дэкалог, тры», маст. фільм, 1990 г., Польшча.
**22.40** Два на два (тэледыскусія).
**23.05** Аб'ектыў.
**23.30** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).

## 26 КРАСАВІКА, ЧАЦВЕР

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.50** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Прыгодніцкі серыял «Добрыя хлопцы» (Украіна-Расія). 2-я серыя.
**10.05** Зямельнае пытанне.
**10.30** Да цешчы на бліны.
**11.05** Меладраматычны серыял «Калі яе зусім не чакаеш.» (Украіна).
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.00** Серыял «Абдуры мяне» (ЗША). 1-я серыя.
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Мультфільм.
**15.45** Меладрама «Я памятаю…».
**17.20** Меладраматычны серыял «Маруся».
**18.15** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 00.05** Зона Х.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Меладраматычны серыял «Калі яе зусім не чакаеш» (Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Прыгодніцкі серыял «Добрыя хлопцы» (Украіна-Расія). 2-я серыя.
**23.00** Серыял «Абдуры мяне». 2-я серыя.
**00.15** Дзень спорту.
**00.30** Меладрама «Я памятаю…».

### Н

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.10** «Права на абарону».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.00** «Два колеры запалу». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Крымінальныя хронікі».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Адрыў». Шматсерыйны фільм.
**22.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.15** «Вячэрні Ургант».
**23.50** «На ноч гледзячы».
**00.45** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Вялікая нафта». Серыял.
**09.30** «Дабро пажаліцца».
**09.55** «Прыгоды дылетанта».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты-2». Гумарыстычны серыял.
**14.40** «Навошта табе алібі?». Серыял.
**15.30** «Забойная сіла». Серыял.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** «Верхаводы». Серыял.
**21.25** «Забойная сіла». Серыял.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Праўда».
**23.40** «Аўтапанарама».
**00.00** «Навошта табе алібі?». Серыял.
**00.50** «Яшчэ не вечар».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Ясі і худзей.
**09.35** Вышэй за дах.
**10.10** Меладраматычны серыял «Гарачы лёд» (Расія-Украіна). Заключная серыя.
**11.05** Жансавет.
**11.40** Страсці па культуры.
**12.35** Меладрама «Памятай мяне» (ЗША).
**14.40** Дак. фільм «І дарога паволі зарастае».
**15.15** Дак. фільм «Старыя фотаздымкі».
**15.45** Ясі і худзей.
**16.15** «Альбарутэнія».
**16.50** Ваенна-шпіёнскі дэтэктыў «Выратуйце нашы душы» (Расія).
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Пад грыфам «Вядомыя».
**19.30** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**21.10** Тэлебарометр.
**20.15** Беларуская часіна.
**21.25** КЕНО.
**21.30** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**22.00** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Паўфінал. Прамая трансляцыя.
**00.00** Час футболу.
**00.40** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Паўфінал.

###

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00, 22.00, 23.00, 00.00, 01.00** Навіны Садружнасці.
**05.05** Праграма «Простая мова».
**05.20** Дак. фільм «Дом з гісторыяй».
**06.05** Мультсерыял «Фархат, прынц Персіі».
**06.40** Праграма «Цік – так».
**07.05** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**08.05** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**09.05** Праграма «Простая мова».
**09.25** Праграма «Сардэчна запрашаем.
**10.05** Мастацкі фільм «Якія нашы гады».
**12.20** Дак. фільм «Цюркі Расіі».
**13.30** Мультсерыял «Крыштальная маска».
**13.55** Тэлесерыял «Старшакласнікі».
**14.30** Тэлесерыял «Мая радня».
**15.25** Тэлесерыял «Сэрцу не загадаеш».
**17.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**18.25** Праграма «Акцэнты».
**18.40** Тэлесерыял «Неба і зямля».
**20.45** Праграма «Простая мова».
**21.25** Праграма «Злачынства і пакаранне».
**22.05** Дак. фільм «Цюркі Расіі».
**23.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**00.05** Тэлесерыял «Нашы суседзі».
**01.05** Тэлесерыял «Нашы суседзі».
**02.00** Праграма «Беларусь сёння».
**02.40** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**04.25** Праграма «Злачынства і пакаранне».

### Discovery CHANNEL

**08.25** Брудная работка.
**09.15** Смяротны ўлоў.
**11.05** Дзёрзкія праекты.
**12.00** З чаго гэта зроблена?
**12.30** Вокамгненныя катастрофы.
**12.55** Выжыць любым коштам.
**14.45** Заезды.
**15.40** Амерыканскі чопер.
**16.35** Брудная работка.
**17.30** Смяротны ўлоў.
**19.20** Дзёрзкія праекты.
**20.15** Выжыць любым коштам.
**21.10** Як гэта працуе.
**22.05** Брудная работка.
**01.45** Разбуральнікі легенд.
**02.40** Брудная работка.
**06.35** Як гэта працуе.

### EUROSPORT

**00.00, 11.00** Тэніс: Турнір WTA. Штутгарт - Дзень 3.
**01.30** Снукер: Чэмпіянат свету. Шэфілд - Дзень 5.
**02.15, 09.30** Фітнэс.
**09.45** Снукер: Чэмпіянат свету. Шэфілд - Дзень 5.
**13.00** Веласпорт: Нацыянальны тур. – 5-ы этап.
**15.00, 21.00** Снукер: Чэмпіянат свету. Шэфілд - Дзень 6.
**18.00, 19.00** Тэніс: Турнір WTA. Штутгарт - 1/8 фіналу.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар.
**07.35** «Дэкалог, тры», маст. фільм, 1990 г., Польшча.
**08.30** «Бландзінка», серыял: 4 серыя.
**09.15** Праект «Будучыня».
**09.40** «Школа на санцапёку», серыял.
**10.10** Навігатар.
**10.25** Невядомая Беларусь: «Дзень памінання», дак. фільм, 2011 г., Беларусь.
**10.50** Два на два (тэледыскусія).
**11.15** «Дарога да пекла», дак. фільм, 2008 г., Беларусь: ч. 1.
**11.45** Сальда (эканамічная праграма).
**12.00** Без рэтушы: «Радаводны знак», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**12.20** «Дэкалог, тры», маст. фільм, 1990 г., Польшча.
**13.15** «Бландзінка», серыял: 4 серыя.
**14.00** Праект «Будучыня».
**14.30** «Школа на санцапёку», серыял.
**14.55** Навігатар.
**15.10** Невядомая Беларусь: «Дзень памінання», дак. фільм, 2011 г., Беларусь.
**15.35** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**15.45** «Дарога да пекла», дак. фільм, 2008 г. Беларусь: ч. 1.
**16.15** Два на два (тэледыскусія).
**16.40** Без рэтушы: «Радаводны знак», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**17.00** «Школа на санцапёку», серыял.
**17.25** Вагон.
**17.30** Басанож па свеце.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Дарога да пекла. Атрута», дак. фільм, 2008 г., Беларусь: ч. 2.
**18.45** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Гарачы каментар.
**19.20** Эксперт.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Euromaxx.
**20.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Рэпартэр.
**21.50** «Чарнобыльскія званы», дак. фільм, 1996 г., Польшча.
**22.50** «Палітыканы», серыял: 5 серыя.
**23.35** Аб'ектыў.
**00.00** Гарачы каментар.

## 29 КРАСАВІКА, НЯДЗЕЛЯ

**1 БЕЛАРУСЬ**

**06.40** Меладрама «Лабірынты кахання» (Украіна-Расія).
**08.00** Існасць.
**08.30** Ранішняя хваля.
**09.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**10.10** Медычныя таямніцы.
**10.45** Культурныя людзі.
**11.20** Тэлефільм АТН « Шэпт столінскай багны» цыклу «Зямля беларуская».
**11.40** Мультфільмы.
**12.00** Навіны.
**12.10** Камедыйны серыял «Сваты-5» (Украіна).
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.00** Навіны.
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.35** Прыгодніцкі фільм «Белае сонца пустэльні» (СССР).
**17.20** Каробка перадач.
**18.00** Суперлато.
**18.50** Прыгодніцкая камедыя «Кракадзіл Дандзі-2» (ЗША-Аўстралія).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Дзённік «Еўрабачання».
**22.10** Драма «Унутранае расследаванне» (ЗША).
**00.15** Хакей для ўсіх.

**ОНТ**

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.55** Фільм «Зімовы вечар у Гаграх».
**11.40** АНТ прадстаўляе: «Брэйн рынг».
**12.40** «Смешарыкі. ПІН-код».
**12.55** Фільм «Мой ласкавы і пяшчотны звер».
**14.55** «Фальшывыя біяграфіі».
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Вялікая розніца» у Адэсе. Лепшае.
**20.00** Контуры.
**21.05** АНТ прадстаўляе: VIII нацыянальны конкурс прыгажосці «Міс Беларусь 2012».
**22.35** «Розыгрыш».
**00.10** «Дыскатэка 80-х».

**СТВ**

**07.00** «Далёкія сваякі».
**07.25** «Салдаты-13». Серыял.
**09.00** «Аўтапанарама».
**09.30** «Відавочнік прадстаўляе: самае смешнае».
**10.05** «Вялікі сняданак».
**10.45** Фільм «Чатыры пяра». ЗША-Вялікабрытанія, 2006 г.
**13.05** «Добры дзень, доктар».
**13.35** Фільм «Вяселле ў Малінаўцы». СССР, 1967 г.



**15.15** Ток-шоў «Такі лёс».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Праўда».
**17.30** Канцэрт М.Задорнава.
**19.00** «Аўтапанарама».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Мастацкі фільм.
**22.30** «Пякельная кухня».
**23.45** Фільм «Пра вырадкаў і людзей». Расія, 1998 г.

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.20** Размова са святаром.
**07.30** Прыступкі Веры.
**07.45** Таямніца душы.
**08.15** Камедыйны дэтэктыў «Закон зайца» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**10.10** Камедыя «Каралева бензакалонкі» (СССР).
**11.40** Тэлебарометр.
**11.50** Школа рамонту.
**12.50** Шоў «Інтуіцыя».
**13.55** Вышэй за дах.
**14.30** Бухта капітанаў.
**15.10** Кінаспробы.
**15.50** Камедыйны дэтэктыў «Закон зайца» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**17.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга. Тотэнхэм-Блэкберн. Прамая трансляцыя.
**20.25** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Навіны надвор'я.
**21.45** Спорт-кадр.
**22.35** Крымінальны баявік «Не памірай у адзіночку» (ЗША).
**00.10** Шоў «Інтуіцыя».

**НТВ**

**05.00** Мультфільмы.
**07.40** Мастацкі фільм «Падкідыш».
**08.00** Навіны Садружнасці.
**08.10** Мастацкі фільм «Паднятая цаліна».
**14.30** Праграма «Простыя лікі. Знакі няпростага стагоддзя».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.10** Тэлесерыял «Застава Жыліна».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**21.00** Тэлесерыял «Застава Жыліна» (Працяг).
**21.30** Мастацкі фільм «Кантроль з зямлі».
**23.25** Мастацкі фільм «Нескрадзеная нявеста».
**03.00** Мастацкі фільм «Падкідыш».
**04.20** Праграма «Простыя лікі. Знакі няпростага стагоддзя».

**Discovery CHANNEL**

**08.00** Пятая перадача.
**08.25** З чаго гэта зроблена?
**08.50** Як гэта ўладкавана?
**11.05** Вокамгненныя катастрофы.
**12.00** Дзёрзкія праекты.
**12.55** Лесапавал на балотах.
**13.50** Брудная работка.
**14.45** Смяротны ўлоў.
**19.20** Бяспека меж.
**20.15** Рачныя монстры.
**21.10** Горш быць не магло.
**00.50** Я не павінен быў выжыць!
**02.40** Бяспека меж.
**05.40** Як гэта працуе.
**06.05** Я не павінен быў выжыць!

**EUROSPORT**

**00.00** Баявыя мастацтвы. Суперкомбат.
**00.00** Веласпорт: Нацыянальны тур. 7-ы этап.
**01.00** Тэніс: Турнір WTA. Штутгарт.
**02.00** Снукер: Чэмпіянат свету. Шэфілд - Дзень 8.
**09.30** Чэмпіянат свету ў класе Турынг: Браціслава - Кваліфікацыйны раўнд.
**09.45** Чэмпіянат свету ў класе Турынг: Браціслава - Размінка.
**10.15** Тэніс: Турнір WTA. Штутгарт.
**11.00** Снукер: Чэмпіянат свету. Шэфілд - Дзень 8.
**12.00, 17.00** Снукер: Чэмпіянат свету. Шэфілд – 9-ы дзень.
**15.00** Чэмпіянат свету ў класе Турынг: Браціслава.
**16.00** Чэмпіянат свету ў класе Турынг: Браціслава.
**20.00** Тэніс: Турнір WTA. Штутгарт - Фінал.
**21.45** Снукер: Чэмпіянат свету. Шэфілд – 9-ы дзень.

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Зона «Свабоды».
**07.45** «Доктар Марцін», серыял: 23 серыя.
**08.35** Калыханка для самых маленькіх.
**09.05** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**09.35** «Марцэла», дак. фільм, 2006 г., Чэхія.
**10.55** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**11.20** Невядомая Беларусь: «Верасень 1939. Як нас вызвалялі», дак. фільм, 2011 г., Беларусь.
**11.50** Басанож па свеце (спазнаваўчая праграма).
**12.15** «Чарнобыльскі шлях прафесара Бандажэўскага», рэпартаж, 2010 г., Польшча.
**12.35** Калыханка для самых маленькіх.
**13.05** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**13.30** «Тэра постсаветыка. Чорны палітык у Расіі», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**13.55** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**14.15** «Марцэла», дак. фільм, 2006 г., Чэхія.
**15.35** «Гіцлі», маст. фільм, 2003 г., Вялікабрытанія.
**17.10** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**17.25** «Час гонару», серыял.
**18.10** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**18.35** Два на два (тэледыскусія).
**19.00** «У сэрцы пракаветнай пушчы», дак. серыял: 5 серыя.
**19.30** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**19.40** Калыханка для самых маленькіх.
**19.50** «Георгі і матылі», дак. фільм, 2004 г., Балгарыя–Канада–Фінляндыя–Галандыя–Нарвегія–Брытанія.
**20.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**21.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**21.40** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**22.10** Фільматэка майстроў: «Джэйн Остэн», маст. фільм, 2007 г., Вялікабрытанія.
**00.15** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).
**00.20** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**01.00** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 604 34 57 Юрый;
Мінск: (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск: (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк: (8044) 755 66 48 Марына.

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

## Паважаныя чытачы!

З новага 2012 года мы вымушаны ўзняць падпісны кошт аднаго нумара газеты да 1200 руб., аднаго месяца — 4800 руб. Дзякуй, вам, за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| | | | |
|---|---|---|---|
| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня
Всего

Кассир

ПАМЯЦЬ

# АШАРШЫЛЫК — КАЗАХСКІ ГАЛАДАМОР

Алег НОВІКАЎ

**Афіцыйная Астана зняла табу з тэмы Галадамору ў Казахстане. Палітолагі спрачаюцца пра палітычныя матывы такога рашэння.**



Непасрэдна рашэнне пра тое, што Галадамор (па-казахску Ашаршылык) варты ўшанавання на афіцыйным узроўні як фрагмент гісторыі краіны, было прынятае 1 сакавіка. «Я даў даручэнне сёлета адзначыць 80-годдзе Галадамору. У 1929–1933 гадах загінула ад голаду 40 працэнтаў казахаў. Калі б не голад, нас было б цяпер 40–50 мільёнаў», — заявіў Назарбаеў у гэты дзень на сустрэчы са студэнтамі аднаго са сталічных універсітэтаў.

Тое, што ў словах Елбасы прысутны складнік палітычнай кан'юнктуры, відавочна. Раней на працягу ўсіх гадоў казахскай незалежнасці пра тыя падзеі імкнуліся не гаварыць. Калі Казахстан здабыў незалежнасць у 1991 годзе, было вырашана ўзвесці помнік ахвярам голаду. У 1992 годзе ўрад, ідучы насустрач заклікам казахскай інтэлігенцыі, вылучыў месца для будучага манумента. Прайшло 16 гадоў — помнік так і не з'явіўся.

Хаця хаваць сам факт трагедыі было цяжка нават у савецкі час. Калі ў 1926 годзе ў Казахстане, паводле ўсенароднага перапісу, пражывала 3,9 мільёна чалавек, то па дадзеных на 1937 год — 2,8 мільёна, або толькі 72,1 працэнта ад колькасці людзей у 1926 годзе. Для Украіны, якая лічыцца галоўнай ахвярай Галадамору, гэты паказчык складае 84,7 працэнта.

Голад у Казахстане (на той час край меў статус аўтаномнай рэспублікі ў складзе РСФСР), як і паўсюдна, стаў вынікам кампаніі за пагалоўную калектывізацыю і стварэнне калгаснай гаспадаркі. Кампанія суправаджалася прымусовым пераходам качавога насельніцтва на аселы лад жыцця. Такім чынам, падрывалася жывёлагадоўля, якая была традыцыйнай гаспадаркай казахаў на працягу стагоддзяў і забяспечвала прадуктамі мясцовае насельніцтва. Скаціна, якую рэквізавалі ў качэўнікаў для патрэб калгасаў, забівалі з-за немагчымасці пракарміць яе ў адным месцы. Да 1933 года з 40 мільёнаў галоў скаціны засталася прыкладна адна дзясятая частка.

Стан рэчаў пагоршыла разнарадка аб прымусовай здачы насельніцтвам збожжа. У пагоні за рэкордамі канфіскавалі пасяўны матэрыял, фуражнае і харчовае збожжа. Партработнікі забіралі з калгасаў і аднаасобных гаспадарак увесь наяўны хлеб. Размова з тымі, хто пратэставаў, была кароткай — раскулачвалі, высылалі, расстрэльвалі.

Для казахаў татальная канфіскацыя харчу была страшней у шмат разоў, таму што яны — жыхары стэпу. На той час яны амаль зусім не ведалі земляробства. Больш таго, у масавай свядомасці панавалі забабоны, што ўрывацца ў лона зямлі — жудаснае злачынства.

Як бачым, голад пачатку 1930-х быў для Казахстана адной з самых вялікіх трагедый у нацыянальнай гісторыі.

Тое, што пра яго 15 гадоў не казалі, звычайна тлумачылі спецыфікай адносін Масквы і Астаны. Адна з вядучых казахскіх апазіцыйных газет «Рэспубліка» ў 2010 годзе пісала: «Гэта замоўчванне ўпісваецца ў шматгадовыя паводзіны Нурсултана Назарбаева, гатовага любым коштам пазбегнуць магчымага гневу Крамля. Або гэта старая партыйная звычка аглядацца на палітбюро, або гэтыя выразныя веды, што непрыманне яго персоны ў Маскве можа яму каштаваць кар'еры лідара нацыі наогул».

Нежаданне варушыць гісторыю з часам стала добрым геапалітычным іміджам для Назарбаева. Ва Украіне пасля прыходу «аранжавых» да ўлады тэма Галадамору стала афіцыйнай ідэалогіяй. У 2006 годзе ўкраінскі парламент прызнаў Галадамор 1932–1933 гадоў генацыдам украінскага народа. Пасля такога ж кшталту рэзалюцыі прынялі парламенты шэрагу іншых краін.

Трактоўка Кіева не спадабалася ў Маскве, паколькі ў ёй арганізатарам трагедыі лічыцца ўрад СССР — дзяржавы, пераемніцай якой прызнае сябе цяперашняя Расія. Афіцыйная расійская пазіцыя адносна Галадамору заключаецца ў тым, каб лічыць трагедыю вынікам непрадугледжаных абставін. І тое, што Казахстан — краіна-ахвяра Галадамору — увогуле не ўздымаў праблему, было, безумоўна, на руку Крамлю.

І вось цяпер Назарбаеў сам фарсіруе ўчора яшчэ крамольную тэму. Рэвізію ў яго падыходах тлумачаць часцей вынікамі інтэграцыі з Расіяй у рамках Мытнага саюза і Адзінай эканамічнай прасторы (АЭП). Праект АЭП успрымаецца патрыятычнай часткай казахаў, якія доўгі час разглядалі Назарбаева гарантам незалежнасці, як здрада.

«Якія асноўныя параметры АЭП? І як гэты праект суадносіцца з дзяржаўнай незалежнасцю Рэспублікі Казахстан? Дзе знайсці тэкст той дамовы? Яго абмяркоўваюць усе, акрамя... народа. Галоўнае, якія паўнамоцтвы Казахстан мае намер аддаць гэтай невядомай, але ўсёмагутнай камісіі? Не ад нашых улад, а ад... брытанскай ВВС мы даведваемся, што «на саміце краін ЕўрАзЭС Беларусь настойвала на праве блакаваць на дзяржаўным узроўні любыя рашэнні ЕЭС», у той час як Расія лічыць, што канчатковыя рашэнні па ЕЭС павінна прымаць вышэйшы савет саюза. А дзе пазіцыя афіцыйнай Астаны? І якая яна?» — задае пытанні незалежнае выданне «Zona.kz».

На думку шмат каго, мітусня вакол Галадамору павінна супакоіць нацыяналістычную грамадскасць, для якой гэта тэма, безумоўна, вельмі важная. Аднак тут існуюць вялікія рызыкі. Украінскі вопыт сведчыць, што Галадамор — гэта вельмі балючая і эмацыйная рэч, здольная палітызаваць соцыум. Перш за ўсё, тэма можа перарасці ў міжнацыянальныя спрэчкі наконт таго, ці быў голад спланаванай акцыяй Масквы. І тут эмоцыі могуць пакінуць рамкі кулуарнага гістарычнага дыскурсу.

У Казахстане калектывізацыя разглядалася не проста як эканамічная мера, а як частка спланаванай аперацыі па ліквідацыі традыцыйнай структуры казахскага грамадства. Справа ў тым, што казахі абыякава паставіліся як да краху манархіі ў Расіі, так і да ўсталявання савецкай улады. Бальшавікі не мелі ніякіх пачагоў уплыву на качавое насельніцтва. Таму абраны ў 1925 годзе кіраўніком краявой партыйнай арганізацыі Філіп Галашчокін абвясціў «Малую Кастрычніцкую рэвалюцыю» ў аулах.

Наўрад ці гаворка ішла пра ліквідацыю казахаў як нацыі, аднак «русіфікатарскі» і каланіяльны кампанент аперацыі «Малы Кастрычнік» быў відавочны. Так, у адным са сваіх лістоў Галашчокін прасіў у Сталіна перавесці казахскую мову на кірыліцу, каб разарваць гістарычную памяць абарыгенаў. «Трэба знішчыць інтэлігенцыю, яшчэ раз змяніць казахскі алфавіт; такім чынам падрастаючае пакаленне не будзе мець магчымасці чытаць гісторыю свайго народа», — пісаў тагачасны першы сакратар Кампартыі Казахстану.

Таму можна не сумнявацца, што мерапрыемствы з нагоды 80-годдзя Галадамору ў Казахстане не абыдуцца без канфрантацыі радыкальных фракцый казахскай і рускамоўнай абшчынай. Гэта, у сваю чаргу, наўрад ці паспрыяе палітычнай стабільнасці ў краіне — прадмет гордасці і элемент піяру Назарбаева.

Напрыканцы хацелася б адзначыць незвычайны лёс самога Філіпа Галашчокіна, які, дарэчы, паходзіць з Віцебску. Ён, нягледзячы на тое, што прымаў удзел у забойстве царскай сям'і і быў ахарактарызаваны сучаснікамі як «верны ленінец», таксама трапіў пад каток сталінскага тэрору. Самае цікавае, што арыштавалі яго не як нямецкага шпіёна, а як «педэраста» (у той час адпаведны артыкул прысутнічаў у Крымінальным кодэксе). У 1941 годзе Галашчокін быў расстраляны недзе ў самарскай глыбінцы.



## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Рэальным крытэрам дабрабыту народа з'яўляюцца суадносіны прыбыткаў і ўзроўню спажывання. І Беларусь па гэтым паказчыку заўсёды прайгравала нават найбліжэйшым суседзям. У структуры спажывання беларусаў выдаткі на прадукты нават з улікам «сацыяльных коштаў» дасягалі 60 працэнтаў ад усіх іх прыбыткаў. Гэта паказчык беднай краіны. Сістэма гаспадаркі, якая прынята ў Беларусі, на мяжы краху. Спачатку з катэгорыі сацыяльна значных прадуктаў выпалі садавіна і гародніна, цяпер па рынкавых коштах прадаецца малако. На чарзе — падаражанне хлеба. Без структурных рэформаў у эканоміцы рост коштаў на харчаванне непазбежны.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Прашэнне пра памілаванне ва ўмовах, калі Саннікаву рэальна пагражала смерць у турме, не ганьба. Нават калі Андрэй адмовіцца ад барацьбы, сыдзе ў прыватнае жыццё ці адправіцца ў эміграцыю, ніхто не мае права яго асуджаць. Але, думаю, намеснік міністра замежных спраў і кандыдат у прэзідэнты здавацца не мае намеру. Пасля ўсяго, што здарылася, ён мае ўсе шанцы ў будучыні стаць лідарам аб'яднанай апазіцыі. Выхад на волю Саннікава і Бандарэнкі — сапраўдная параза Лукашэнкі.

**«Коммерсант» (Расія)**

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка хоць і працягвае моцна залежаць ад Расіі, аднак гэта не памяншае яго запалу па прасоўванні ў рамках Еўразійскага саюзу такіх структур, якія б цвёрда абаранялі нацыянальны суверэнітэт. Еўразійскі скептыцызм Лукашэнкі сакрэтна падзяляюць і іншыя лідары ў рэгіёне. Яны гатовыя пайсці на пэўныя саступкі Расіі, але не гатовыя аддаваць незалежнасць, якая так цяжка ім дасталася. Са свайго боку, Расія не хоча станавіцца еўразійскім эквівалентам Германіі — рэгіянальнай чэкавай кніжкай, якая з'яўляецца гарантам працэсу інтэграцыі і аплачвае рахункі менш буйных дзяржаў.

**«The National Interest» (ЗША)**

Летась краіна перажыла крызіс, калі рубель абваліўся прыкладна ў тры разы і шматлікія аглядальнікі лічаць, што гэта, нароўні з ціскам Захаду, паставіла Лукашэнку ў небяспечнае становішча. Для Лукашэнкі палітычныя зняволеныя — гэта тавар. Цяпер склалася такая сітуацыя, калі ён занадта доўга ўздымаў кошт, і ў выніку Захад адмаўляецца гандляваць.

**«Fox News» (ЗША)**

Калі ў Брусэлі і Вашынгтоне не паслабяць ціскі на беларускія ўлады, даб'юцца вызвалення ўсіх палітвязняў і захаваюць зачыненымі дзверы для чыноўнікаў і бізнэсмэнаў, датычных да злачынстваў апошніх дзесяцігоддзяў, — значыць, ужо неўзабаве мы будзем сведкамі з'яўлення новай Беларусі. Калі ж на Захадзе палічаць, што Лукашэнка павінен быць узнагароджаны, і лепш падтрымліваць яго гульню ў суверэнітэт, тады Лукашэнка будзе яшчэ доўга здзекавацца з Брусэлю, Вашынгтону, Масквы і з уласнага народа.

**«Политком» (Расія)**

Аляксандр Лукашэнка зрабіў перастаноўкі ў Камітэце дзяржбяспекі краіны. У галоўным сілавым ведамстве яшчэ больш умацаваліся пазіцыі старэйшага сына прэзідэнта Віктара Лукашэнкі. Віктар, пад чыім кантролем цяпер знаходзяцца спецслужбы, змяняе старыя кадры, якія мелі цесныя асабістыя сувязі з расійскімі калегамі. Замест іх з'яўляюцца маладыя людзі са слабым вопытам. Асноўным аргументам у павышэнні па службе з'яўляецца надзейнасць і асабістая адданасць «сям'і».

**a_ukraina (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ІРАН. ВАЗЬМІЦЕ Ў ЕЎРАЗІЙСКІ САЮЗ

На сайце агенцтва Іран.ру, які моцна звязаны з іранскім пасольствам у Маскве, з'явіўся артыкул, сэнс якога: Іран мае інтарэс да таго, каб увайсці ў склад Еўразійскага саюза. Аўтар піша: «Іран для Расіі можа стаць прывабным партнёрам у будаўніцтве новай Еўразійскай прасторы. Інтэграцыйны праект стварэння Адзінай эканамічнай прасторы Расіі, Беларусі і Казахстана, вядома ж, у першую чаргу разлічаны на ўдзел у ім дзяржаў на постсавецкай прасторы. Аднак у Расіі ёсць і больш амбіцыйная ідэя выйсці на вышэйшы ўзровень інтэграцыі — да Еўразійскага саюза. З гэтых пазіцый Іран, несумнеўна, — прывабны партнёр». Цяжка зразумець, што задумалі аўтары артыкулу: сапраўды правесці зандаж грамадскай думкі краін — сяброў удзельнікаў праекту Еўразійскага саюза або проста папалохаць ЗША магчымым стварэннем новага геапалітычнага блоку. Між тым, 18 красавіка ўлады Ірана вырашылі ўвесці рускую мову ў школах у дадатак да персідскай (фарсі) і англійскай, якія вучні Ісламскай рэспублікі сёння вывучаюць у абавязковым парадку.

**Паводле расійскай прэсы**

### ПАЎНОЧНАЯ КАРЭЯ. ШТО ЧАКАЕ АДКАЗНЫХ ЗА ПАДЗЕННЕ СПАДАРОЖНІКА?

Пхеньян прызнаў няўдалым запуск ракеты-носьбіта «Ынха–3» («Млечны шлях–3»), здзейснены ў мінулую пятніцу. Спадарожнік не выйшаў на зададзеную арбіту. Зараз усе назіральнікі гадаюць: хто з-за няўдалага запуску пазбавіцца пасады, а каго адправяць у лагеры. У Пхеньяне не прабачаюць такіх правалаў, тым больш, што ракета абышлася мясцовай эканоміцы ў 50–60 мільёнаў долараў. Усе ўзгадваюць, як у 2010 годзе пакаралі капітана футбольнай зборнай, якая з трэскам прайграла на чэмпіянаце свету. Паводле паведамленняў СМІ, капітана выключылі з партыі і прысудзілі выпраўленчыя працы на будоўлі. Больш пра яго лёс нічога не паведамлялася. Калі ў снежні памёр Кім Чэн Ір, і хтосьці з грамадзян асмеліўся недастаткова шчыра плакаць ці, горш таго, застаўся безуважным да гора народа, іх прыгаворвалі да шасці месяцаў у працоўных лагерах.

**Паводле нямецкай прэсы**

### УКРАІНА. «МАТЧА», МАГЧЫМА, НЕ БУДЗЕ



Ва Украіне могуць забараніць паказ расійскага фільма «Матч» пра так званы кіеўскі футбольны «матч смерці» паміж кіеўскімі дынамаўцамі і немцамі ў 1942 годзе. У СССР існавала легенда, што кіяўляне за перамогу ў тым мачы былі забітыя, хаця на самай справе іх забілі за кантакты з партызанамі. Так ці інакш, некаторыя выданні вінавацяць рэжысёра стужкі Андрэя Малюкова ў распальванні антыўкраінскіх настрояў. У карціне ўсе, хто супрацоўнічае з акупантамі, размаўляюць на мове Шаўчэнкі. З'явілася і больш радыкальная фракцыя праціўнікаў «Матча». Яны кажуць, што фільм трэба забараніць, паколькі ён супярэчыць гістарычнай праўдзе. Так лічыць украінскі гісторык Уладзімір Гінда. «У перыяд з 1941-га па 1944 гады на ўсёй тэрыторыі акупаванай Украіны было праведзена больш за 150 украінска-нямецкіх футбольных паядынкаў, больш паловы з якіх скончыліся перамогай украінцаў. Пры гэтым ніводны з матчаў не скончыўся расстрэлам. Для нямецкіх вайскоўцаў футбольныя сустрэчы з украінскім насельніцтвам у той час — гэта спосаб адпачынку ў тыле. Для ўкраінцаў — гэта магчымасць падзарабіць і таксама адцягнуцца ад акупацыйных будняў. Больш таго, у 1943–1944 гадах праводзіліся баксёрскія паядынкі, калі немцы на рынгу гублялі прытомнасць, і пасля гэтага ніхто нікога не расстрэльваў», — падкрэслівае гісторык. Дарэчы, рэжысёр стужкі Андрэй Малюкоў прызнаў, што праўда ў гэтай гісторыі з матчам смерці яго не цікавіць.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ІРЛАНДЫЯ. УЗГАДАЛІ ІРЛАНДСКУЮ САВЕЦКУЮ РЭСПУБЛІКУ

У час крызісу ў Ірландыі сталі папулярнымі левыя настроі, што прывяло да цікавага феномену — росту інтарэсу да спробы стварэння Ірландскай Савецкай Рэспублікі. 92 гады таму, у красавіку 1919 года, у рабочым горадзе Лімерык, што на паўднёвым захадзе Ірландыі, была абвешчана савецкая ўлада. Пралогам стала пахаванне лідара прафсаюзу, якога брытанцы забілі за супрацоўніцтва з Ірландскай рэспубліканскай арміяй, што вяла партызанскую вайну супраць Лондана. Пахаванне перарасло ў вулічныя пратэсты. Англійскія ўлады нават вымушаны былі абвясціць горад спецыяльнай вайсковай зонай. У адказ рабочыя, якія фактычна захапілі горад, абвясцілі тут савецкую ўладу. Забастовачны камітэт, які фактычна быў галоўным адміністратыўным органам, нават выпускаў свае грошы. Савецкая ўлада праіснавала прыкладна два тыдні. Не будучы ў стане яе знішчыць, англічане пагадзіліся з шэрагам патрабаванняў страйкоўцаў у абмен на тое, што тыя адмовяцца ад ідэі саветаў. Аднак гэта быў яшчэ не канец. 22 снежня 1922 года група камуністаў захапіла ратушу ў Дубліне, вывесіла на ёй чырвоны сцяг і ўвогуле заявіла, што Ірландыя з цяперашняга часу — не проста сацыялістычная, але камуністычная рэспубліка. На гэты раз масы іх не падтрымалі.

**Паводле брытанскай прэсы**

---

**ВЫБАРЫ**

# АД ЯГО ЗАЛЕЖЫЦЬ ЛЁС ФРАНЦУЗСКАЙ РЭСПУБЛІКІ

**Алег НОВІКАЎ**

**У нядзелю, 22 мая, французы абіраюць прэзідэнта. Ужо зараз зразумела, што спатрэбіцца другі тур, у якім усё можна вызначыць пазіцыя Франсуа Байру, кандыдата ад ліберальнага «Дэмакратычнага руху» (MoDem).**




Арыфметыка другога туру прэзідэнцкіх выбараў у Францыі нагадвае славуты выраз: хлопчыкі — налева, дзяўчынкі — направа. У праекцыі на французскі выбарчы працэс гэты значыць: левыя пры ўсіх раскладах прагаласуюць за левага кандыдата, сацыяліста Франсуа Аланда (хаця шмат хто лічыць яго апартуністам, рэвізіяністам, рэнегатам і г.д). Падобным чынам паводзяць сябе і правыя. Пры ўсіх супярэчнасцях курсу цяперашняга французскага прэзідэнта, яны абяруць Сарказі толькі таму, што ён не падабаецца левай публіцы.

Калі Сарказі атрымае ўсе галасы правых выбарцаў (галісты, радыкалы, Нацыянальны фронт), то ў яго, па цяперашніх разліках, будзе каля 46 працэнтаў. Яго галоўны апанент з улікам падтрымкі электарату ўсіх левых партый і прафсаюзаў (трацкісты, Зялёныя, Левы фронт, Сацпартыя) здольны атрымаць 48 працэнтаў. 46 + 48 = 94. Куды падзеліся яшчэ шэсць працэнтаў? Яны — у Франсуа Байру. Такім чынам, ад яго залежыць лёс Французскай Рэспублікі.

MoDem — адначасова і новы, і стары актор у французскай палітыцы. Партыя ўзнікла ў 2007 годзе на базе Саюза за французскую дэмакратыю (UDF), які доўгі час увасабляў ліберальную традыцыю ў краіне. Пры гэтым, аднак, пачынаючы з 1980-х гадоў, UDF знаходзіўся ў ценю галістаў. Стан рэчаў змяніўся з прыходам да ўлады ў партыі Франсуа Байру.

Байру нарадзіўся ў 1951 годзе ў сям'і небагатага селяніна. Вучыў класічную літаратуру ва ўніверсітэце Бардо, які скончыў ва ўзросце 23 гадоў, калі ўжо быў сябрам ліберальнай партыі. Байру лічыць сябе заўзятым каталіком, хаця выступае прыхільнікам прынцыпу аддзялення рэлігіі ад дзяржавы.

Дзякуючы таму, што Франсуа пайшоў у палітыку, калі краінай кіраваў ліберал Жыскар д'Эстэн, зрабіць кар'еру было няцяжка. Ужо напрыканцы 1970-х гадоў ён працуе ў адным з міністэрстваў. Байру адказваў за барацьбу з непісьменнасцю.

Пасля перамогі на выбарах галістаў пад кіраўніцтвам Эдуара Баладзюра ў 1993 годзе, Байру быў запрошаны ва ўрад у якасці міністра адукацыі. Падчас яго знаходжання на гэтай пасадзе былі праведзены сур'ёзныя рэформы ў французскай сістэме адукацыі. Пасаду Байру захаваў і пасля таго, як у 1995 годзе новым прэм'ер-міністрам стаў Ален Жупэ, які дапоўніў паўнамоцтвы Байру кіраваць сферай навукі.

Аднак на пачатку нулявых гадоў адносіны паміж галістамі і ліберaламі рэзка пагоршыліся. З аднаго боку, Жак Шырак вырашыў аб'яднаць правы фланг і ліберальны цэнтр у «Саюз за народны рух» (UMP). З іншага — Байру ніколі не хаваў, што марыць пра стварэнне цэнтрысцкай палітычнай сілы, здольнай на роўных супрацьстаяць галістам з правага флангу палітычнага спектру.

Усё гэта закончылася тым, што UMP і UDF перасталі ўспрымацца як нешта адзінае. Тэндэнцыю на стварэнне ў Францыі асобнага ліберальнага полюса замацавалі прэзідэнцкія выбары 2007 года, калі Байру ў першым туры адхапіў 18 працэнтаў. На хвалі поспеху ён заклікаў да рэструктурызацыі ліберальнага руху і да стварэння таго самага MoDem. Цікава, што першапачаткова Байру марыў, каб новая структура называлася Партыя дэмакратаў. Ад ідэі давялося адмовіцца, паколькі скарочана назва гучыць на французскай мове «педэ», што на жаргоне значыць «гомасэксуалісты». Давялося стаць «мадэмамі».

Вынікі пяцігодкі існавання MoDem дастаткова супярэчлівыя. З аднаго боку, лібералы сапраўдыператварыліся ў нешта аўтаномнае ад галістаў. Стварыўся асобны палітычныя дыскурс, які патрапіў у сферы грамадства, дзе ніколі не было лібералаў. Так, MoDem падтрымліваюць брэтонскія і баскскія ўмераныя нацыяналісты, некаторыя эколагі, студэнцкая моладзь і дзеячы культуры. Байру па вялікаму рахунку слушна кажа, што падзел французаў на правых і левых дастаткова штучны. У масе сваёй жыхары Францыі ў побыце прытрымліваюцца ліберальных цэнтрысцкіх поглядаў, і праблема ў тым, каб гэты голас быў пачуты.

З іншага боку, сваю галоўную задачу — разбурэнне біпалярнай мадэлі французскай палітыкі, якая склалася пры Мітэране, — Байру не вырашыў. Апошнія буйныя выбары — выбары ў Еўрапейскі парламент 2009 года — засведчылі, што партыя страціла дынаміку. Партыя MoDem атрымала 8 працэнтаў галасоў, хаця на папярэдніх выбарах мела 11%. Трэба адзначыць, што звычайна выбары ў Еўрапарламент мала што значаць, і людзі любяць галасаваць за радыкальныя спісы. Выбарчая кампанія 2012 года аказалася яшчэ горшай. Рэйтынг Байру балансуе на мяжы 10 працэнтаў.

Магчыма, нейкую маральную кампенсацыю Байру зараз атрымае. Як ужо казалася, расстаноўка сіл сведчыць, што менавіта фармацыя лібералаў будзе вызначаць пераможца кампаніі.

Сам Франсуа, адпаведна, усё часцей трапляе ў аб'ектывы камер журналістаў. Пакуль ён упарта адмаўляецца адказваць на пытанне, за каго ён і яго партыя прагаласуюць у другім туры. Не выключаюць, што Франсуа напярэдадні галасавання ў другім туры афіцыйна адмовіцца падтрымліваць усіх, як і 5 гадоў таму. Тады ён перад журналістамі кінуў у выбарчую скрыню чысты бланк для галасавання.

Аднак тут ёсць нюанс. Не факт, што гэтак жа, як Байру, будуць дзейнічаць іншыя выбарцы MoDem. У 2007 годзе 40 працэнтаў усё ж адмовіліся ад байкоту і прагаласавалі за сацыялістку Сіґален Руаяль. Калі гэта паўторыцца, інтарэс да праекту Байру можа зменшыцца. І гэта ўжо зразумелі некаторыя партыйныя кіраўнікі, якія не хочуць быць маргіналамі. Яны дазваляюць сабе заклікі ў падтрымку таго ці іншага кандыдата. Моладзевая секцыя, у сваю чаргу, ужо заявіла, што ў другім туры будзе агітаваць за кандыдата ад сацыялістаў.

Гэта разумеюць і сябры выбарчага штабу кандыдата. Як піша «Figaro», зараз атачэнне Байру думае, як выйсці з пасткі. Праблема ў тым, што ў час узыму MoDem Франсуа адчуваў сябе вельмі смела і казаў на адрас як сацыялістаў, так і галістаў усё, што, як кажуць, накіпела. Так, Сарказі ён назваў «дзіцяй варвара». Ад праграмы сацыялістаў з іх ідэяй увесці новыя падаткі і павялічыць сацыяльныя дзяржаўныя фонды Байру не пакінуў мокрага месца.

Акрамя таго, сам Франсуа Аланд можа не прыняць жэсту замірэння. Напярэдадні другога туру яму патрэбна захаваць добрыя адносіны з электаратам камуністаў, чый кандыдат мае 15 працэнтаў падтрымкі. Апошнія могуць не зразумець з'яўлення ў лагеры сацыялістаў лібералa. Тым больш, што блок камуністаў і сацыялістаў — гэта частка левай традыцыі ў Францыі.

Не кажучы пра тое, што Аланд і Сарказі ўжо дакладна маюць нейкія контуры персанальнага складу будучай адміністрацыі і наўрад ці будуць зараз займацца ракіроўкамі для Байру.

Вось такая драма: чалавек, які вырашае ўсё, не атрымае з гэтага нічога. Хаця, каб ацаніць маштабы спектакля, трэба дачакацца вынікаў першага туру.

ВЕРСІЯ

# «ТЫТАНІК» ПАТАНУЎ З-ЗА МУМІІ

Алег НОВІКАЎ

**Кожная вялікая трагедыя тлумачыцца ў тым ліку тэорыямі змовы. Аварыя на лайнеры «Тытанік», якая адбылася роўна сто гадоў таму, — не выключэнне.**



Усяго, на думку «тытанікаведаў» (ёсць нават такая спецыялізацыя), налічваецца прыкладна паўтузіна тэорый, аўтары якіх адмаўляюцца прыняць афіцыйную версію — выпадковы характар катастрофы, галоўным чыннікам якой стала сутыкненне карабля з айсбергам. На іх думку, меўся распрацаваны план дыверсіі з мэтай затапіць карабель, які і быў рэалізаваны ў ноч на 14-е красавіка 1912 года.

Пра тое, што тут справа не чыстая, на думку прыхільнікаў альтэрнатыўных версій, сведчаць шмат дзіўных рэчаў. Напрыклад, Джон Морган, уладальнік марской кампаніі White Star Line, якой належаў «Тытанік», патрабаваў, каб карабель адправіўся ў рэйс, нягледзячы на пажар у адным з адсекаў. Сам пры гэтым ад удзелу ў рэйсе прынцыпова адмовіўся. Яшчэ больш унікальным выглядае той факт, што ён распарадзіўся вярнуць з судна ўжо дастаўлены туды груз, сярод якога знаходзілася каштоўная калекцыя карцін. Чаму ў капітана Эдварда Сміта з'явілася жаданне прывесці «Тытанік» у канчатковы порт падарожжа як мага хутчэй, нягледзячы на папярэджанні пра магчымасць сутыкнення з айсбергамі?

Таксама варта адзначыць, што ўсяго толькі за некалькі тыдняў да трагедыі «Тытаніка» быў апублікаваны раман Герхарта Гаўптмана «Атлантыда», у якім распавядаецца пра трагічную аварыю ў Атлантыцы судна «Роланд», які сутыкнуўся з айсбергам. Дзіўна, але апісаная ў рамане катастрофа ў дэталях і падрабязнасцях супадае з той, што па афіцыйнай версіі адбылася ў красавіку 1912 года на «Тытаніку». На думку «тытанікаведаў», арганізатары катастрофы на «Тытаніку» маглі скарыстацца кнігай у якасці інструкцыі.

У хіт-парадзе тэорый змоваў найбольш вар'яцкая версія, безумоўна, належыць тым, хто верыць у казкі пра мумію са старажытнага Егіпту. Поль Байер апублікаваў артыкул пра тое, што прычынай гібелі «Тытаніка» стала знаходжанне на борце нейкага небяспечнага егіпецкага старадаўняга артэфакту, на які быў накладзены праклён. Па яго версіі, адзін з багатых амерыканскіх пасажыраў кантрабандай вёз прадмет у Злучаныя Штаты. Нейкім чынам той прадмет негатыўна паўплываў на экіпаж, што і прывяло да сутыкнення з айсбергам.

Як правіла, галоўнай ахвярай магіі аўтары гэтай тэорыі называюць капітана, спасылаючыся пры гэтым на сведкаў яго паводзін у хвіліны катастрофы. Па іх апісаннях, капітан у тыя ракавыя хвіліны вёў сябе вельмі млява і з няўпэўненасцю. Дзеянні капітана выглядалі вельмі дзіўнымі. Валявы чалавек з велізарным досведам працы на моры, уключаючы мноства здарэнняў, паводзіў сябе папросту неадэкватна. Ствараліся ўражанне, што Эдвард Сміт знаходзіцца быццам пад гіпнозам, што супярэчыць апісанням яго ранейшых паводзін у экстрэмальных сітуацыях.

Той Эдвард Сміт, які сапраўды быў капітанам судна і загінуў пры катастрофе, увогуле стаў адным з самых папулярных герояў альтэрнатыўных версій. Вядома, што Эдвард Сміт быў агентам Ордэну езуітаў. А на караблі быў яго калега. Яго імя Фрэнк Браўн, адзін з самых уплывовых езуітаў Ірландыі. Браўн пакінуў «Тытанік» падчас стаянкі ў апошнім еўрапейскім порце. Ёсць версія, што той Браўн быў адным з ключавых выканаўцаў аперацыі па затапленні «Тытаніка». Магчыма, ён даў Сміту нейкія распараджэнні і ўказанні з цэнтру.

Нашто езуіты патапілі лайнер? Прааналізаваўшы спісы загінулых на «Тытаніку», «альтэрнатыўшчыкі» знайшлі сенсацыйны адказ. Сярод ахвяраў прысутнічаюць прозвішчы трох асобаў, якія ў той час былі на нажах з езуітамі з-за нежадання падтрымаць праект стварэння амерыканскай недзяржаўнай банкаўскай сеткі, якую лабіраваў звязаны з Ватыканам дом Ротшыльдаў. Вось такі «Код да Вінчы».

У 1996 годзе брытанская і французская кампаніі арганізавалі чарговую экспедыцыю. На месца катастрофы «Тытаніка» прыбыло судна «Надзір». На працягу трыццаці дзён высокакваліфікаваныя інжынеры і навукоўцы даследавалі корпус «Тытаніка» з дапамогай падводнага апарата і зрабілі нечаканае адкрыццё: ніжэй ватэрлініі выявіліся шэсць дзірак дыяметрам 5 квадратных метраў. Пасля сутыкнення з айсбергам у корпусе карабля павінна была ўтварыцца адтуліна прынамсі ў 30 метраў, а ніяк не шэраг вузкіх «дзірак» у шасці розных месцах.

Лепш бы яны пра гэта не ведалі. Адразу прыхільнікі тэорыі змоў сталі пісаць, што «Тытанік» аказаўся ахвярай тарпеды з нямецкай субмарыны. Знайшлі нават матывы — немцы ўжо тады рыхтаваліся да першай сусветнай вайны і да таго, каб тапіць пасажырскія лайнеры дзяржаў Антанты. Нехта лічыць, што ўжо згаданы вышэй уладальнік судна Джон Морган, якім рухалі нейкія карысныя інтарэсы, мог падкупіць капітана нямецкай падлодкі.

Тэорыя засноўваецца на ідэі махлярства з мэтай атрымання страхоўкі. У 1911 годзе пры выхадзе ў 11 рэйс «Алімпік» — карабель, вельмі падобны на «Тытанік», сутыкнуўся з англійскім крэйсерам «Hawk». Апошні пры гэтым цудам застаўся на плыву, у той час як «Алімпік» атрымаў невялікія пашкоджанні. Кампанія «White Star Line» да таго часу ўжо несла сур'ёзныя фінансавыя страты. Страхоўка за судна цалкам магла б пакрыць усе страты, аднак пашкоджанняў, атрыманых пры сутыкненні з крэйсерам, было недастаткова для выплаты страхоўкі. Трэба было, каб судна атрымала большыя пашкоджанні (якія, аднак, не адбіліся б на яго плывучасці). Таму было вырашана зрабіць штучную аварыю з айсбергам, а для падстрахоўкі заклікаць нямецкую падлодку.

Падабенства «Алімпіка» і «Тытаніка» спарадзіла тэорыю, паводле якой у трагічны рэйс насамрэч быў адпраўлены не «Тытанік», а «Алімпік». Гэта стала магчымым пасля замены кармавых лістоў з назвай судна, а таксама ўсіх прадметаў побыту і інтэр'еру, якія нясуць назву судна. Па меркаванню прыхільнікаў тэорыі змовы, гэта тлумачыць шматлікія факты: адсутнасць бінокляў у назіральнікаў, высокая хуткасць у моры, поўным айсбергаў і г.д.

Нягледзячы на ўяўную абсурднасць згаданай версіі, яна атрымала шырокі распаўсюд, і аспрэчыць яе апынулася вельмі няпроста. Супраць яе, да прыкладу, сведчыў той факт, што шматлікія пасажыры «Тытаніка» раней плавалі на «Алімпіку» і наўрад ці не заўважылі б падмены.

Аднак нягледзячы на шматлікія контраргументы, версія пра змовы, якія быццам пагубілі «Тытанік», усё працягваюць існаваць — сведчаннем гэтага з'яўляецца шэраг сучасных навукова-папулярных артыкулаў і дакументальных фільмаў, якія адстойваюць дадзены пункт гледжання. І таму ёсць лагічнае тлумачэнне ў выглядзе дзіўных паводзін уладаў.

Пасля таго, як вядомы амерыканскі рэжысёр Джэймс Кэмеран падпісаў кантракт з кампаніяй «Парамаунт» на стварэнне фільма «Тытанік», ён быў выкліканы на гутарку ў офіс ЦРУ. Пра што рэжысёр і агенты там размаўлялі, не вядома. Кэмеран сцвярджае, што ён падпісаў дакумент, які забараняе яму казаць публічна пра тэму размовы. Шматлікія дакументы і факты расследавання пра «Тытанік» утрымліваюцца дагэтуль пад грыфам «зусім сакрэтна» ў брытанскай выведцы. У чым сакрэтнасць, не зразумела, што і дае яшчэ больш прастор для чалавечай фантазіі.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### КСЕНІЯ САБЧАК

Апошнім часам з'явілася версія, што Ксенія — агент ФСБ. Быццам яе наўмысна інтэгравалі ў склад антыпуцінцаў з мэтай дыскрэдытацыі іх руху. Падставай стаў так званы «гламурны дэсант» у Астрахань — выезд Сабчак і яе прыхільнікаў у гэты горад для падтрымкі галадоўчага кандыдата Алега Шэйна, які патрабуе перагляду вынікаў выбараў мэра гораду. З'яўленне Ксеніі на Волзе, на думку шмат каго, мела адваротны эфект. Так, Эдуард Лімонаў кажа, што «ўдзел Ксеніі Сабчак у астраханскіх пратэстах афарбаваў галадоўку Алега Шэйна ў «несур'ёзныя колеры шоў-бізнэсу». Больш таго, пайшлі чуткі, што ў Астрахані мы бачым рымэйк нядаўніх падзей у Маскве, калі перад тысячамі людзей, незадаволеных фальсіфікацыямі вынікаў думскіх выбараў, раптам з'явіліся ў якасці «лідараў» Міхаіл Касьянаў, Барыс Нямцоў, Уладзімір Рыжкоў, Ксенія Сабчак… Шмат хто з тых людзей, якія былі на Балотнай плошчы і плошчы Сахарова, пазней прызнаваліся: гэтыя асобы перапужалі іх настолькі моцна, што на наступны акцыі пратэсту яны папросту не пайшлі. Усё гэта падобна на трызненне, аднак скандал вакол Сабчак выклікаў сапраўднае паляванне на ведзьмаў у асяроддзі апазіцыі.

### ЖАЗЭ МАРЫЯ ДЭ ВАСКАНСЕЛУШ



Экс-міністр абароны Усходняга Тымора стаў пераможцам прэзідэнцкіх выбараў у гэтай краіне. Па інфармацыі мясцовай выбарчай камісіі, Васканселуш, вядомы пад псеўданімам Таур Матан Руак, што на мясцовай мове значыць Два Чорных Вока, набраў каля 61% галасоў. За яго суперніка, лідара партыі «Рэвалюцыйны фронт за незалежнасць Усходняга Тымора» Франсіска Гутэрыша, вядомага як Лу Олу, прагаласавалі 38,8% выбарцаў. Пасада прэзідэнта ў рэспубліцы носіць галоўным чынам цырыманіяльны характар, аднак выбары выклікалі вялікі інтарэс ва ўсім свеце. Усё таму, што Жазэ Марыя — былы лідар партызан, якія 30 гадоў змагаліся супраць войскаў Інданезіі, што ў 1975-м акупавала гэтую былую партугальскую калонію. Гэта была не проста акупацыя, а сапраўдны генацыд, які гісторыкі параўноўваюць з акупацыйным гітлераўскім рэжымамі або рэжымам Пол Пота. Ад 20 да 30 працэнтаў насельніцтва былі забітыя. Было знішчана 80% жылля. Тыя, хто выжыў, мусілі ісці ў спецыяльныя канцлагеры, каб вывучыць інданезійскую мову. Аднак супраціў працягваўся насуперак усяму. Яго героем стаў Жазэ Марыя, былы просты супрацоўнік гатэлю. Ён нават умудрыўся збегчы з турмы, куды яго адзін раз пасадзілі. Цікава, што Захад не ў захапленні ад цяперашняй перамогі Двух Чорных Вачэй. Заходняя прэса кажа, што наяўнасць былых партызан у эліце не дазваляе краіне парваць з мінулым.

### ВІКТАР ЯНУКОВІЧ

Аказваецца, у дадатак да шматлікіх сваіх тытулаў Фёдаравіч яшчэ і першы ўкраінскі пісьменнік. Гэта выцякае з яго дэкларацыі пра прыбыткі за мінулы год. Адпаведна ёй, Януковіч прадаў аўтарскія правы данецкаму выдавецтву «Новы свет», за што атрымаў аўтарскі ганарар у суме 16,4 мільёна грыўняў (трохі больш за 2 мільёна долараў). Менавіта столькі каштуюць 4 кнігі, якія быццам зараз піша для выдавецтва гарант. Відавочна, што перад намі акт чыстай карупцыі або форма адкату. Атрымаць шматмільённыя ганарары за кнігі ва Украіне амаль немагчыма. Нават самыя паспяховыя літаратары атрымліваюць у тысячы раз менш. Сярэдні ганарар за кнігу — каля тысячы долараў. Больш таго, літагенты разлічылі, што акупіцца выданне кнігі Януковіча пры сярэднім кошце ў 8–10 долараў ва Украіне зможа, калі яго наклад складзе не менш як 80 мільёнаў асобнікаў. Гэта значыць, што кожны ўкраінец, уключаючы немаўлят, сляпых і непісьменных, набудзе па дзве кніжкі прэзідэнта. Скандал займеў яшчэ большыя маштабы, пасля таго як стала вядома, што па бухгалтэрыі выдавецтва было надрукавана амаль паўтара мільёна кніжак Януковіча. Ніводнага экземпляру з тыражу ніхто не бачыў. Між тым, Саюз пісьменнікаў дзеля жарту прапанаваў Януковічу ўступіць у свае шэрагі.



▸ РЭПРЭСІІ

# СІБІРСКАЯ ГАЛГОФА БЕЛАРУСКІХ КСЯНДЗОЎ

Ігар КУЗНЯЦОЎ

**Пасля кастрычніцкага перавароту 1917 года бальшавікі сапраўды зрабілі ўсе цэрквы і рэлігіі роўнымі паміж сабой, але не ў праве свабодна развівацца, а ў магчымасці быць аднолькава гнанымі. Першая хваля рэпрэсій, арганізаваная чэкістамі і Антырэлігійнай камісіяй Палітбюро ЦК РКП(б), працягвалася з 1922 па 1929 год, другая, услед за ёй, — да 1937-га. Рэпрэсіі пачаліся ў цэнтры краіны, аднак пракаціліся па кожным горадзе і населеным пункце.**



Карта ГУЛАГа

## Бальшавіцкія «Варфаламееўскія ночы»

Першым ударам новай улады па каталіцкай царкве і яе святарах у Расіі стаў арышт мітрапаліта Эдварда фон Ропа. Аднак неўзабаве — ужо ў 1919 годзе — Ватыкан здолеў дамагчыся яго вызвалення і высылкі ў Польшчу. Новая — і ўжо беспрапынная — хваля рэпрэсій супраць каталіцкай царквы разгортвалася сінхронна з рэпрэсіямі супраць царквы праваслаўнай. Паралельна са «справай патрыярха Ціхана» ў Маскве карнымі органамі была сфабрыкавана справа супраць групы каталіцкіх святароў на чале з архібіскупам Янам Цеплякам і прэлатам Будкевічам. Абодва былі асуджаныя да расстрэлу.

На Захадзе гэты прысуд выклікаў шквал абурэння ў царкоўных і палітычных колах. Польскі ўрад на чале з прэм'ерам В. Сікорскім выказаў самы рашучы пратэст дзеянням савецкіх уладаў.

Прэзідыум Усерасійскага цэнтральнага выканаўчага камітэта (ВЦИК) сваёй пастановай быў вымушаны прыпыніць выкананне прысуду. 29 сакавіка 1923 года з'явілася новая пастанова ВЦИК за подпісам М. І. Калініна, паводле якой архібіскупу Яну Цепляку вышэйшая мера замянялася 10 гадамі зняволення. Прысуд у дачыненні да прэлата Будкевіча застаўся ранейшым. Яго забілі 31 сакавіка 1923 года, у Страсную суботу па заходнім стылі, у сутарэннях Усерасійскай надзвычайнай камісіі (ВЧК) на Лубянцы стрэлам у патыліцу.

Бабрышчаў-Пушкін, адвакат на «працэсе Цепляка — Будкевіча», у сваім выступе ў абарону падсудных звярнуўся да суддзяў і сказаў: «Калі разглядаць Каталіцкую царкву як контррэвалюцыйную арганізацыю, цэнтр якой знаходзіцца па-за межамі Расіі, то ў вас ёсць сродак на гэта — Варфаламееўская ноч...»

Гэтыя мужныя словы рускага чалавека ў абарону расійскіх каталікоў былі прароцкімі. Кожны год упісваў усё новыя і новыя старонкі ў мартыралог вялікапакутнікаў.

Пачатковымі эканамічнымі мерамі рэпрэсіўнага характару супраць царквы сталі секулярызацыя (адабранне) царкоўных земляў і каштоўнасцяў. Паводле сведчанняў гісторыкаў, усяго па Сібіры падчас кампаніі 1922 года па канфіскацыі царкоўных рэліквій партыя бальшавікоў атрымала 2 пуды 3 фунты золата, 622 пуды 25 фунтаў срэбра, залатых манет на суму 2 298 рублёў і срэбных манет на суму 16 714 рублёў.

Тых, хто спрабаваў схаваць царкоўныя рэліквіі, чакалі суды і расправы. Толькі ў 1922 годзе ў Сібіры ўлады арганізавалі больш за 250 паказальных судовых працэсаў у дачыненні да вернікаў і духавенства абедзвюх канфесій па фактах супраціву секулярызацыі каштоўнасцяў.

## Першыя ахвяры

У перыяд грамадзянскай вайны многія сібірскія каталікі і іх духоўныя пастыры адназначна не падтрымалі бальшавікоў, але па-рознаму паставіліся да ўлады белых генералаў. Частка прызнала ўладу адмірала Калчака ў Сібіры, іншыя — галоўным чынам патрыятычна настроеныя беларусы і палякі — не падтрымалі лідараў белага руху, не прынялі іх ідэю «адзінай і непадзельнай Расіі». У выніку яны падпалі пад рэпрэсіі з боку адміністрацыі Калчака.

Так, у 1918 годзе ў высылку ў пасёлак Малічэўка Томскага павета быў адпраўлены ксёндз Грабоўскі, бо ў прапаведзях і ў каталіцкай газеце выказваўся супраць удзелу ў змаганні польскіх легіёнаў на баку Белай арміі.

Аднак нягледзячы на гэта з прыходам у 1920 годзе да ўлады бальшавікоў становішча Грабоўскага, як і іншых каталіцкіх святароў, стала невымерна трагічней. Першы арышт скончыўся шчасліва — амністыяй. Адзін партыйны функцыянер з польскіх камуністаў, які наведаў прыход Грабоўскага ў глухім сібірскім мястэчку ў 1920 годзе, назваў ксяндза тыповым узорам каталіцкага святара — гэта прагучала як прысуд.

У гутарцы з функцыянерам Грабоўскі адкрыта заявіў, што не можа падтрымліваць камуністаў, бо тыя выступаюць супраць прыватнай уласнасці, якая для яго — «забаніраваная святасць». Неўзабаве неўтаймоўны ксёндз зноў быў арыштаваны ЧК і расстраляны.

Высветліць месца і дату яго расстрэлу, як і падрабязнасці біяграфіі, немагчыма: следчая справа Грабоўскага не захавалася. Дый ці была яна? Расстралялі без усякіх фармальнасцяў — і ўсё. Не захавалася архіўнай справы, як пераконваюць супрацоўнікі Томскага УФСБ, і на ксяндза Івана Аўдора з пасёлку Цімафееўскі Барабінскай акругі. Яго арыштавалі ў 1920 годзе і змясцілі ў канцлагер «да заканчэння грамадзянскай вайны».

Верагодна, яны былі першымі каталіцкімі святарамі ў Томскай губерні, якія сталі ахвярамі бальшавіцкага самаўпраўства. Пасля з'явіліся і іншыя.

## Вялікдзень без ксяндза

1 красавіка 1927 года пробашч Новасібірскага касцёла айцец Мікалай атрымаў кароткую цыдулку ад паўнамоцнага прадстаўніцтва Аб'яднанага дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення (ОГПУ) па Заходняй Сібіры з просьбай «пану Міхасёнку Мікалаю» зайсці 2 красавіка да іх у кабінет №54 у 7 гадзін раніцы на размову. Гэта не быў першакрасавіцкі жарт. Упаўнаважаны ОГПУ Бялецкі пры сустрэчы спагадліва цікавіўся, на якія сродкі жыве служка культу, ці атрымлівае грошы з-за мяжы і ад каго, каму накіроўвае свае справаздачы наконт працы і пра што ў іх гаворыцца. Ксёндз жа быў стрыманы і нешматслоўны. У свае 39 гадоў ён ужо меў пэўны досвед і добра ведаў, чым могуць скончыцца падобныя ветлівыя размовы.

Выхадзец з Віцебскай губерні, выпускнік пецярбургскай духоўнай семінарыі, каталіцкі святар Мікалай Міхасёнак прыехаў у Сібір напачатку 1913 года і да 1923-га служыў пробашчам каталіцкіх прыходаў у пасёлках Двурэчанскім, Малічэўска і Беласток Томскага павета. З Беластока яму давялося з'ехаць у Томск, бо мясцовыя ўлады забралі жылы дом ксяндза. У 1925 годзе ён пераехаў у Новасібірск, але і там яго неўзабаве пазбавілі жылля.

Арыштавалі айца Мікалая праз дзень пасля той ветлівай размовы ў ОГПУ: прад'явілі абвінаваўчае заключэнне пад незвычайнай назвай — «Мемарандум матэрыялаў на Новасібірскага ксяндза Міхасёнак Мікалая». Сэнс дакумента быў стандартны: пярэстая сумесь відавочнага паклёпу, чутак, агентурных данясенняў і прызнанняў ксяндза, зробленых на сустрэчы 2 красавіка.

Вестка пра арышт святара выклікала вялікую ўзрушанасць сярод каталікоў горада. Многія звязвалі арышт айца Міхасёнка з выступам Паўла Грачыхі (вартаўніка мясцовай польскай школы і адначасова старшыні касцельнай рады) у польскім клубе горада на вечарыне, дзе прысутнічаў знаны дзеяч польскага і рускага рэвалюцыйнага руху з Масквы, паплечнік Леніна Якаў Ганецкі. На гэтым мерапрыемстве Грачыха выступіў са скаргай на прыгнёт каталікоў у горадзе, забарону выкладаць каталіцызм у польскай школе (у абвінаваўчым заключэнні гэта падаецца як відавочны ўплыў святара).

Іншыя звязвалі арышт айца Мікалая з імкненнем уладаў сарваць святкаванне надыходзячага Вялікадня. Касцельная рада нават напісала заяву на імя начальніка Новасібірскага паўнамоцнага прадстаўніцтва ОГПУ з просьбай вызваліць ксяндза Міхасёнка з турмы для выканання рэлігійных абрадаў «з 14 па 18 красавіка бягучага года: у чацвер, пятніцу і суботу з 9 гадзін раніцы да 14.00 гадзін і ў нядзелю з 6 гадзін раніцы да 14.00 гадзін...»

На жаль, адзначаць Вялікдзень новасібірскім каталікам давялося без свайго духоўніка, якога тым часам штодня вадзілі на допыты, дзе ён зацята адмаўляўся прызнаць сябе вінаватым у высунутых супраць яго абвінавачваннях. Следчы разам з начальнікам паўнамоцнага прадстаўніцтва ОГПУ па Захсібкраю Закоўскім двойчы прад'яўлялі следчыя матэрыялы на ксяндза Мікалая ў краявую пракуратуру для зацвярджэння. І абодва разы справа вярталася як відавочна непадрыхтаваная, у якой усе абвінавачванні грунтаваліся «толькі на чутках і ўражаннях».

Тады чэкісты накіравалі сфальсіфікаваную справу ў пазасудовыя органы. Рашэннем Адмысловай Нарады пры Калегіі ОГПУ ад 25 лістапада 1927 года Мікалай Міхасёнак быў асуджаны да зняволення ў лагерах тэрмінам на тры гады без ужывання да яго амністыі. Пакаранне адбываў у сумна вядомых Салавецкіх лагерах асобага прызначэння (СЛОН).

Да гэтага часу на Салаўкі было адпраўлена некалькі дзясяткаў каталіцкіх святароў з усёй тэрыторыі СССР. Нездарма 1927–1928 гады ў гісторыі каталіцкай царквы Расіі атрымалі назву «салавецкіх».

Ксёндз Міхасёнак яшчэ да канца тэрміну рашэннем усё той жа Адмысловай Нарады ОГПУ ад 28 красавіка 1930 года да ранейшага пакарання атрымаў дадаткова тры гады высылкі ў Паўночны край.

Дакладна не вядомыя ні акалічнасці яго апошніх дзён жыцця і смерці, ні месца пахавання, ні дата смерці.

## Справа «Гуртка Хрыста»

Канец 1920 — пачатак 1930-х гадоў у Расіі характарызуецца далейшым узмацненнем рэпрэсій супраць царквы. Гэта можна растлумачыць не толькі «абвастрэннем класавай барацьбы ў пачатку калектывізацыі ў краіне», але і рэакцыяй уладаў на абвешчаны Папам Піем XI «Крыжовы Паход Малітваў» за спыненне ганенняў на веру ў Расіі: «Выратавальнік сусвету, выратуй Расію».

У Томску ўжо рыхтаваўся працэс над пробашчам гарадской рымска-каталіцкай абшчыны, а з 1926 года яшчэ і адміністратарам каталіцкіх храмаў усёй Сібіры Юліянам Гронскім.

У студзені 1930 года ў томскай газеце «Чырвоны сцяг» з'явіўся ананімны артыкул «Барацьба супраць рэлігіі — барацьба за сацыялізм: Ахвяра папоўскай агітацыі». Безыменны аўтар разбіраў нібыта дасланую ў рэдакцыю заяву нейкага працоўнага каўбаснай фабрыкі Крэтовіча, у якой той ставіў пытанне пра прадстаўленне яму як каталіку хаця б двух выхадных на год: 25 снежня (на Каляды) і ў першы дзень Вялікадня.

Такога кшталту памкненні сібірскіх каталікоў аўтар артыкула ахарактарызаваў як контррэвалюцыйныя, накіраваныя супраць умацавання абараназдольнасці краіны, бо яны гуляюць на руку польскім памешчыкам і капіталістам іншых краін. Віну за такія настроі аўтар усклаў на ксяндза Гронскага, які сваімі пропаведзямі нібы зрабіў Крэтовіча прыладай барацьбы за «зрыў індустрыялізацыі і іншых саўмерапрыемстваў».

Неўзабаве пасля публікацыі артыкула ОГПУ арыштавала васьмёра жыхароў пасёлкаў Малічэўка і Спулеўка ў Крывашэінскім раёне. Іх абвінавацілі ў стварэнні контррэвалюцыйнай групоўкі пад назвай «Гурток Хрыста», якая быццам бы пачала дзейнічаць яшчэ ў 1926 годзе па ініцыятыве ксяндза Гронскага і вяла сваю «гнюсную працу аж да свайго арышту».

Ад арыштаваных дамагаліся паказанняў на іх духоўніка, а не дачакаўшыся, вырашылі ўзорна пакараць. Двое з васьмярых, у тым ліку былы касцельны арганіст Іосіф Ліпніцкі, былі расстраляныя, двое асуджаныя на 10 гадоў зняволення ў канцлагерах, астатнія атрымалі меншыя

тэрміны зняволення ці высылку ў Туруханскі край. Усе ацалелыя будуць зноў арыштаваныя і расстраляныя ў 1937–1938 гадах.

Самога ксяндза Гронскага арыштавалі 25 красавіка 1931 года ў яго кватэры па вуліцы Бакуніна, 17. Кіраваў арыштам упаўнаважаны томскага ОГПУ Раманаў, які затым амаль год цягаў ксяндза на допыты і фактычна вызначыў яго лёс.

Успаміны старажылаў Томска і матэрыялы справы Гронскага, якія захоўваюцца ў архіве УФСБ па Томскай вобласці, дазволілі больш падрабязна аднавіць яго біяграфію і, што не меней важна, узнавіць адносна падрабязную карціну становішча каталіцкіх святароў у Сібіры ў канцы 1920-х — пачатку 1930-х гадоў.

Ксёндз Юліян (Юліян Міхайлавіч Гронскі) нарадзіўся ў 1877 годзе ў в. Чэпелі Скопішскай воласці Ковенскай губерні, у літоўскай каталіцкай сям'і. На пачатку XX стагоддзя выў высвечаны на святара і з 1903 па 1907 гады служыў у розных прыходах Беларусі. У 1907 годзе ён прыехаў у Пецярбург, але праз год быў накіраваны ў Рыгу. Вярнуўся ў сталіцу напачатку вайны, а ў 1915 годзе быў мабілізаваны ў войска, да лістапада 1917-га служыў святаром пры штабе 5-й арміі. У чэрвені 1918 года мітрапаліт фон Роп накіраваў айца Юліяна для місіянерскай дзейнасці ў Іркуцк, шлях у які праз франты ваюючых войскаў заняў больш за паўтара гады.

У жніўні 1920 года Гронскі прыбыў да месца прызначэння. Спачатку служыў у томскім касцёле, затым з 1923 па 1925 жыў у касцёле сяла Андрэеўка Томскага павета. Пазней зноў вярнуўся ў Томск і з 1 лістапада 1926 года заняў пасаду адміністратара каталіцкіх прыходаў усёй Сібіры. Здзяйсняў працяглыя паездкі ў самыя аддаленыя куткі Сібіры, дзе жылі каталікі, але не было святароў. Да канца 1920-х гадоў — прызнаваўся на адным з допытаў ксёндз Гронскі — паездкі сталі практычна немагчымымі з-за забаронаў улад і органаў ГПУ. Паўсюдна — сачэнне і правакацыі з боку мясцовых партыйных актывістаў. Галоўным чынам іх даносы і фігуруюць супраць ксяндза як паказанні сведак. Але, на жаль, было і некалькі абгавораў вернікаў, здабытых, хутчэй за ўсё, праз пагрозы і збіццё.

Арыштаваны айцец Юліян быў разам з групай вернікаў, у асноўным сябраў прыходскіх радаў у гарадах Томску, Барнауле, Омску, Новасібірску, сёлах — Беластоку, Андрэеўцы і іншых. Толькі па адной справе № 118410 з ім праходзіла 18 чалавек, былі яшчэ і самастойныя справы, вылучаныя ў адмысловыя вытворчасці. 7 сакавіка 1932 года вышэйзгаданая справа была разгледжана, паводле пастановы Прэзідыума ЦВК СССР ад 9.06.1927 г., на пасяджэнні Калегіі ОГПУ.

Самыя строгія прысуды — па 10 гадоў зняволення ў канцлагерах — атрымалі Гронскі і адзін з вернікаў. Той па прымусе ОГПУ сачыў за ксяндзом, аднак пазней раскаяўся і ўсё чыстасардэчна распавёў свайму духоўніку. Гэта «расканспірацыя» выклікала асаблівую лютасць чэкістаў. Хтосьці з 16 астатніх абвінавачаных атрымаў меншыя тэрміны ці высылку «з Сібіры ў Сібір», 7 чалавек былі вызваленыя з залікам у пакаранне тэрміну папярэдняга зняволення, 3 вызвалілі з-за «недаказанасці абвінаваўчых матэрыялаў».

Царква і Бог не пакінулі ксяндза Юліяна: 28 студзеня 1934 года ранейшае рашэнне Калегіі ОГПУ было адменена, і ён быў высланы за межы СССР, відавочна, як і ксёндз Бугеніс, у абмен на чэкісцкіх эмісараў ці партыйных функцыянераў, якія праваліліся на Захадзе.

## З Сібіры ў Сібір

Ёсць у матэрыялах архіўна-следчай справы ксяндза Гронскага і кароткія звесткі пра лёсы іншых сібірскіх каталіцкіх святароў. Так, айцец Юліян на адным з допытаў кажа пра ксяндза Бараноўскага прыходу Марыінскага павета Томскай губерні Марцэлія Шварося, які памёр у турме; пра ксяндза Ачынскага прыходу Іосіфа Казакевіча, які знаходзіўся ў той час у высылцы. Згадвае імёны некалькіх сасланых у Сібір каталіцкіх святароў, якім ён дапамагаў грашыма, рэчамі, прадуктамі, парадамі і малітвамі.

Сярод іх былі святар усходняга абраду (уніят), адзін з лідараў рускай каталіцкай царквы Алексій Зерчанінаў, сасланы ў Табольск, — асоба ў гісторыі абедзвюх хрысціянскіх цэркваў легендарная. З ім ксёндз Гронскі быў знаёмы яшчэ па Петраградзе 1917 года. Ёсць звесткі пра ксяндзоў Славінскага, Трачынскага, Бараноўскага, Мяньжынскага і іншых, што знаходзіліся ў нарымскай высылцы.

З ксяндзом Бараноўскім Гронскі пазнаёміўся яшчэ ў 1909 годзе ў Полацку. Яму ў высылку ў сяло Тогура ён дасылаў царкоўнае віно і аплаткі для набажэнстваў, хоць да з'яўлення Бараноўскага каталікоў у вёсцы не было. Сапраўды: дзе ксёндз, там і імша...

Далейшыя пошукі падрабязнасцяў лёсу ксяндза Бараноўскага дазволілі ўстанавіць, што ён стаў аб'ектам рэпрэсій савецкіх улад яшчэ напачатку 1920-х. У 1926 годзе ён ужо знаходзіўся на Салаўках і быў адным з першых каталіцкіх святароў, хто пачаў удзельнічаць у таемных набажэнствах на востраве і служыць імшу ў Германаўскай капліцы, якая стала месцам агульных «еўхарыстычных радасцяў» шматлікіх высланых каталіцкіх і праваслаўных святароў.

У 1929 годзе большасць святароў-каталікоў былі пераведзены на востраў Анзер у яшчэ больш складаныя ўмовы, а ксёндз Бараноўскі апынуўся ў высылцы ў Нарымскім краі, дзе і памёр 14 снежня 1930 года ад сыпнога тыфу ва ўзросце 55 гадоў.

## «За контррэвалюцыйную паўстанцкую дзейнасць»

Пасля арышту ксяндза Гронскага пасада адміністратара сібірскіх касцёлаў перайшла да ксяндза Іераніма Цярпента, пробашча каталіцкай абшчыны Краснаярска. Пастырская дзейнасць у Сібіры для яго пачалася яшчэ да 1917 года ў абшчынах Томскай губерні. З 1908 года пры пабудове ў сяле Беласток касцёла ён быў пробашчам тамтэйшай абшчыны з перасяленцаў канца XIX — пачатку XX стагоддзя.

Затым Цярпента служыў у Томску, Бійску, Барнауле, Ачынску, іншых гарадах і сёлах Сібіры. У 1930 годзе ў Ачынску яго спрабавалі прыцягнуць да адказнасці нібы за смерць дзіцяці пры хрышчэнні, але, відавочна, абвінавачванне было настолькі





абсурдным і груба зробленым, што ксёндз здолеў давесці сваю невінаватасць.

Пра яго далейшы лёс сведчыць інфармацыя з Краснаярскага УФСБ: «Цярпента Іеранім Іеранімавіч, 1888 (па іншых даных — 1878) года нараджэння, выхадзец з мястэчка Крывілі Віленскага павета Віленскай губерні, беларус, грамадзянін СССР, адукацыя вышэйшая духоўная і спецыяльная — курсы фармацэўтаў, рымска-каталіцкі святар, пробашч касцёла г. Краснаярска і адміністратар касцёлаў Сібіры, які пражываў у г. Краснаярск, быў арыштаваны 2 чэрвеня 1935 года органамі НКУС». Абвінавачаны ў тым, што пры касцёле арганізаваў контррэвалюцыйную групу і актыўна займаўся шпіёнскай дзейнасцю на карысць польскіх выведвальных органаў. 24 чэрвеня 1936 года Ваенны трыбунал Сібірскай ваеннай акругі прысудзіў Цярпента І. І. да 10 гадоў пазбаўлення волі.

У 1937 годзе ксёндз Іеранім зноў быў прыцягнуты да крымінальнай адказнасці і абвінавачаны ў тым, што нібы з'яўляўся сябрам Сібірскага цэнтра ПАВ (Польская арганізацыя вайсковая) і быў звязаны з польскім генштабам і Ватыканам, на працягу шэрагу гадоў праводзіў контррэвалюцыйную паўстанцкую дзейнасць сярод польскіх калоній Сібіры.

Пастановай Камісіі НКУС СССР і пракурора СССР ад 4.01.1938 г. асуджаны да выключнай меры пакарання — расстрэлу. Прысуд прыведзены ў выкананне 18 студзеня 1938 года ў Краснаярску.

## Апошні ксёндз Сібіры

Пасля арышту ксяндза Цярпента абавязкі адміністратара сібірскіх касцёлаў перайшлі да ксяндза Іркуцкай абшчыны Антонія Жукоўскага, які прыняў клопаты пра сібірскія прыходы і касцёлы як належнае, добра ўсведамляючы ўсе наступствы свайго рашэння. Да гэтага ён ужо прайшоў не адзін круг выпрабаванняў.

Яшчэ ў 1912 годзе ў Барнауле супраць яго высоўвалася абвінавачванне па арт. 92 Укладання пра пакаранні Расійскай імперыі, але справа па амністыі была спынена. У тым жа горадзе, але ўжо пры савецкай уладзе, у 1920 годзе ён 8 месяцаў утрымліваўся пад вартай органаў ЧК у якасці закладніка. У 1926-м, ужо ў Іркуцку, быў арыштаваны і асуджаны да 3 гадоў зняволення ў лагерах з такім жа тэрмінам наступнай высылкі. Зняволенне адбываў у Вышагорскіх лагерах Урала, а высылку — у межах Паўночнага краю. Вызваліўшыся, вярнуўся ў Іркуцк да сваіх вернікаў.

Арыштавалі Антонія Жукоўскага 14 ліпеня 1937 года ў Томску, куды ён прыехаў за месяц да таго па просьбе мясцовых вернікаў. Сярод чэкістаў, што вялі справу ксяндза, быў і лейтэнант дзяржбяспекі, начальнік 3-га аддзела Томскага гараддзела НКУС Раманаў — той самы, які ў 1931 годзе, яшчэ без афіцэрскіх ромбаў, вёў справу ксяндза Гронскага.

Перш за ўсё НКУС цікавіўся колам знаёмых Жукоўскага. З томскіх жыхароў айцец Антоній назваў выканаўцу абавязкаў старшыні томскай каталіцкай абшчыны Жыгімонта Пронскага, вартаўніка касцёла Франца Шабуцкага, былога арганіста касцёла Мар'яна Вайнароўскага, сакратара касцельнай рады Ванду Томіч і іншых сябраў касцельнай рады — усяго 8 чалавек. Неўзабаве ўсе яны, акрамя толькі адной немаладой жанчыны, былі арыштаваныя і расстраляныя.

Са знаёмых у Іркуцку ксёндз Жукоўскі назваў найбольш блізкіх яму людзей сярод актыўных вернікаў сваёй абшчыны. Іх лёсы нам не вядомыя, але наўрад ці яны адрозніваліся ад лёсаў томскіх знаёмых ксяндза...

Пасля допытаў ў Томску ксяндза Жукоўскага адправілі ў Новасібірск, у лапы больш дасканалых следчых, спецыялістаў яжоўскай школы. Вынікам «цяжкай чэкісцкай працы» стала напісаная дрыготкай рукой ксяндза заява на імя следчага Конанава з прызнаннем сябе вінаватым ва ўсіх высунутых супраць яго абсурдных і недарэчных абвінавачваннях. У тым ліку ў сяброўстве, нароўні з ксяндзамі Ю. Гронскім і І. Цярпента, у падпольным (так званым Сібірскім) камітэце, які рыхтаваў паўстанцкія легіёны з сібірскіх каталікоў, каб арганізаваць у Сібіры выступленне дзеля звяржэння савецкай улады.

4 кастрычніка 1937 года Адмысловая Нарада НКУС СССР прысудзіла Жукоўскага Антонія, 52-гадовага каталіцкага святара, да вышэйшай меры «сацыяльнай абароны» — расстрэлу. Прысуд прывялі ў выкананне 12 кастрычніка 1937 года ў 10 гадзін вечара.

Так перастала біцца сэрца яшчэ аднаго, відавочна, апошняга каталіцкага святара Сібіры, які заставаўся на волі да 1937 года.

А апошняга каталіцкага біскупа на тэрыторыі СССР арыштавалі яшчэ ў 1935 годзе. Ім быў апостальскі адміністратар Крыму, сімферопальскі святар Аляксандр Фрызон, таемна высвечаны ў біскупы ў 1928 годзе. Расстралялі яго 17 сакавіка 1937-га ў турэмным двары Сімферопаля. З гэтай смерцю ў СССР была цалкам знішчана каталіцкая іерархія як лацінскага, так і ўсходняга абрадаў.

## Суцэльная зачыстка

У канцы 1937 — пачатку 1938 гадоў па ўсёй Сібіры пракаціліся хвалі масавых арыштаў палякаў, латышоў, літоўцаў, беларусаў, немцаў — гэта значыць галоўным чынам тых, хто быў прыхільнікам каталіцкай царквы.

Найбольш масавыя арышты нацыянальных меншасцяў «каталіцкай арыентацыі» прайшлі ў месцах іх кампактнага пражывання. Вось толькі некалькі прыкладаў рэпрэсій каталікоў па Нарымскай акрузе. У 1937–1938 гадах былі арыштаваныя 86 жыхароў аднаго толькі Маліноўскага сельсавета Крывашэінскага раёна, па нацыянальнасці пераважна латышы і палякі. Усе яны былі вернікамі малічэўскага касцёла. Усе былі расстраляныя. Ацалець пашчасціла толькі аднаму. Касцёл зачынілі.

У ноч з 11 на 12 лютага 1938 года былі арыштаваныя практычна ўсе мужчыны — ад маладых хлопцаў да нямоглых старых — пасёлку Беласток. Пераважную колькасць іх 14 мая 1938 года расстралялі, касцёл падпаў рабаванню. Двума днямі раней, 12 мая, былі расстраляныя яшчэ 122 нарымчаніна. А 22 мая 1938 года ў цэнтры Нарымскай акругі — горадзе Колпашаве — такі ж лёс спасціг групу латышоў і латгальцаў у колькасці 125 чалавек, нібы за ўдзел у контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай арганізацыі пад назвай «Партыя святых».

Як сцвярджае статыстыка Томскага УФСБ, сярод рэпрэсаваных паводле арт. 58 КК РСФСР жыхароў Томскай вобласці палякі склалі 8,6% (другая па колькасці група пасля рускіх), украінцы — 5,7%, немцы — 3,5%, беларусы — 3,2%, латышы — 2,8%, займаючы пры гэтым на парадак меншы працэнт у агульнай колькасці насельніцтва вобласці.

Сібірскія каталікі ў выніку сталінскіх рэпрэсій пазбавіліся ўсіх сваіх святароў, усіх храмаў і царкоўнай маёмасці, страцілі шмат родных і блізкіх, але не згубілі галоўнае — веру.

Больш таго, літаральна праз два гады, у адказ на ганенні, колькасць каталікоў у Сібіры ўзрасла ў дзясяткі разоў. Тым самым былі створаны перадумовы для будучага аднаўлення царквы.

СУСТРЭЧА З ЛЕГЕНДАЙ

# МУЗЫЧНЫЯ ПАДАРОЖЖЫ «ULIS'А» ПРАЦЯГВАЮЦЦА

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**У рамках кампаніі «Рок-салідарнасць» у адным са сталічных кафэ адбылася творчая сустрэча з вядомым беларускім інструменталістам і саўнд-прадзюсарам, кіраўніком гурта «ULIS» Вячаславам Коранем. Для такой падзеі былі актуальныя падставы.**

У свеце шоў-бізнэсу існуе добрая традыцыя, якая ніяк не можа прыжыцца ў Беларусі: у тым выпадку, калі выканаўца ці гурт вычарпаў свае творчыя магчымасці, то музыканты збіраюць прэс-канферэнцыю і робяць афіцыйнае паведамленне пра спыненне сваёй канцэртнай і студыйнай дзейнасці.

Сапраўды, хто можа цяпер дакладна распавесці, на якім свеце зараз, напрыклад, беларускія гурты «Zet» ці «Камадзіца», «Харлі» ці «Гарадзкія». Да гэтага сумнага спіса гуртоўпрывідаў скептыкі ўжо паспелі аднесці і легендарны «ULIS» Славы Кораня. Таму інтарэс журналістаў і музычных аглядальнікаў да гэтай сустрэчы з вядомым музыкантам меў за мэту высветліць не толькі стаўленне Славы да актуальных падзей у айчынным рок-руху, але і лёс культавага гурта.

З абмеркавання гэтага пытання і пачалася творчая сустрэча. Вячаслаў нагадаў, што ў творчым багажы яго гурта ўжо дзевяць альбомаў. І пасля выхаду апошняга дыска «Люстэрка» каманда «ULIS» узяла творчую паўзу. Каб асэнсоўваць створанае за шмат гадоў і падумаць над музычным стылем будучага «ULIS'а». Галоўнае, удзельнікі «ULIS'а» паставілі новую планку для свайго гурта, і ў будучым гэта павінна адбіцца на яго гучанні і лірыцы.

Дзеля такіх перамен Слава асвойвае ўнікальны інструмент — дванаццаціструнны big stick (англ. «вялікая палка»). Яго тэхнічная магчымасці дазваляюць значана пашырыць акустычны дыяпазон выконваемых кампазіцый, узбагаціць іх меладычную і тэмбравую палітру. На гэтым інструменце можна выконваць нават класічную музыку. Магчымасці big stick, на думку Вячаслава Кораня, могуць быць пакладзены ў аснову новага гучання гурта «ULIS». Засталося толькі засвоіць унікальную тэхніку грання на гэтым інструменце — тэпінг адначасова правай і левай рукамі. Гэтае паведамленне пра новыя планы музыкантаў абнадзеілі тых, хто сабраўся на творчую сустрэчу, а таксама развеялі песімістычныя сумненні адносна будучыні гурта.



Вячаслаў Корань

Не засталося па-за ўвагай і пытанне правядзення беларуска-ўкраінскага фэсту «Be Free», сябрам аргкамітэту якога ад пачатку з'яўляецца Вячаслаў Корань. Разам з іншымі прадстаўнікамі аргкамітэту Слава запэўніў, што зробіць усё магчымае, каб фэст зноў парадаваў слухачоў новымі музычнымі ўражаннямі, паслужыў мэце яднання беларускіх і ўкраінскіх музыкантаў. Дзеля гэтага вядуцца перамовы з моладзевымі арганізацыямі буйных гарадоў Украіны, удакладняюцца ўмовы правядзення фэсту, каб не знізіць планку якасці яго правядзення.

Ад канкрэтных спраў гутарка павольна перайшла да актуальных падзей айчыннага рок-руху. І ў першую чаргу, да так званага «чорнага спісу» беларускіх выканаўцаў. На меркаванне Вячаслава, сумнавядомыя спісы існуюць толькі ў галовах нашых чыноўнікаў, якія гатовы забараніць каго заўгодна, абы толькі дагадзіць начальству сваёй бязглуздай пільнасцю.

Што тычыцца паходу некаторых вядомых беларускіх музыкантаў на прыём да тагачаснага памочніка прэзідэнта Алега Праляскоўскага, то Корань і тады, і цяпер супраць такога адчайнага кроку. Па-першае, музыканты ў нечым пайшлі насуперак сваім перакананням, па-другое, гэты паход наклаў на іх абавязацельствы не кранаць балючых для ўладаў тэмаў. «І што, гэта неяк паўплывала на адмену забаронаў канцэртаў? Не, усё ідзе па-ранейшаму, канцэрты забараняюцца, інфармацыйная блакада не знята, а пляма засталася!» — тлумачыць сваю пазіцыю Слава Корань. З гэтага факту ён бачыць феномен гурта «Ляпис Трубецкой», удзельнікі якога пачыналі з лёгкіх поп-рокавых песенек, а цяпер прыйшлі да кампазіцый сур'ёзнага грамадзянскага сэнсу. А вось некаторыя «хадакі» вымушаны зрабіць адваротныя крокі: адмовіцца ад сацыяльна напоўненых тэкстаў на карысць нечага сэнсава аблегчанага, бесканфліктнага, таго, што збядняе айчынную рок-музыку, уводзіць у непаразуменне нават самых адданых прыхільнікаў беларускай рок-музыкі.

На пытанне адносна стаўлення да роднай мовы, Слава нагадаў, што яго прыхільнасць да беларушчыны ідзе ад музычнай творчасці ў гурце «ULIS». Цяпер гэтыя парасткі любові да беларускага слова ўплываюць на ўсё яго жыццё і працу. Праўда, не настолькі, каб поўнасцю загаварыць па-беларуску. Але ўсё да гэтага ідзе — вызначыў сваю пазіцыю Слава.

Вялікае ажыўленне сярод журналістаў і ўсіх прысутных выклікаў аповед Славы пра тое, што ў яго хаце жывуць сабака і кот, якіх ён узяў з вуліцы і тым самым выратаваў ад галоднай смерці. Здаецца, учынак не такі ўжо значны, але дадае шмат станоўчых рыс да партрэта героя гэтай творчай сустрэчы.

ПРАЕКТ

# ЧАЛАВЕК У ВЫШЫВАНЦЫ

Таццяна ТРУБАЧ, Уладзімір СОДАЛЬ

**Нам сваё насіць — не перанасіць! Колісь Францішак Багушэвіч у сваёй маніфестычнай прадмове да «Дудкі беларускай» напісаў, разважаючы пра нашу мову: «Пазнаюць людзей ці па гаворцы, ці па адзежы, хто якую носе».**

У беларусаў была свая адметная мова, гаворка, свая адзежа, свая апратка ў святочныя дні. Свая апратка. Якая? Найперш, нашы вышыванкі, вядома. Гэтай адметнасці заўсёды трымаліся нашы продкі — свядомыя беларусы і духоўныя асветнікі — літаратары, паэты, драматургі, шматлікія дзеячы культуры.



Прыгадваецца сустрэча з Пятром Краўчанкам. Гэта было 19 ліпеня 2009 года. Мы вярталіся пасля з'ездаўскай стрэчы з беларусамі свету, якія прыехалі ў Мінск з нагоды святкавання вызвалення сталіцы ў 1944 годзе. Шмат пра што мы з ім гаварылі, а найперш пра вышыванку Краўчанкі. Ён увесь час фігураваў у ёй на згаданым з'ездзе. І тады быў апрануты ў гэтую кашулю навыпуск. Я пацікавіўся, дзе ён здабыў сваю вышыванку. І вось што пачуў:

— Колісь Якубу Коласу вышываную кашулю ахвяраваў — хто б вы думалі? — Панцеляймон Панамарэнка. А сам Панамарэнка яе прывёз з Масквы. Затым на схіле жыцця гэтую кашулю Якуб Колас перадаў свайму сакратару. А сакратаром у яго быў — хто б вы думалі? — Максім Лужанін. Затым Лужанін падараваў яе мне. Вось якая гісторыя маёй вышыванкі! Яна, між іншым, з парашутнага шоўку! У мяне ёсць, апрача гэтай, Коласавай вышыванкі, яшчэ пяць ці шэсць кашуляў-вышыванак з рознымі ўзорамі. Будучы міністрам замежных спраў Беларусі, я іх апранаў падчас выступленняў з трыбуны Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. І рабіў гэта свядома. Лічыў, што беларускі традыцыйны строй не горшы за строй іранцаў ці інданезійцаў, якія прыходзілі ў ААН у сваім нацыянальным адзенні. Чаму кіраўнік урада Нарвегіі можа выступаць з трыбуны ААН у сваёй вышыванцы, а міністр замежных спраў Беларусі не? — так я разважаў. Апранаў я вышыванкі і ў Японіі.

У маладыя гады любіў насіць вышыванкі і Янка Купала. Бачым яго на вядомым фотаздымку (у музеі) з пецярбургскімі студэнтамі. І ўсе ў Купалавым доме вельмі даражылі вышыванкамі і шанавалі іх. Паводле Жанны Дапкюнас, колішняга дырэктара музея Янкі Купалы, у вышыванак ёсць свая магія. Яны заўсёды былі сімвалам святочнасці, святасці, урачыстасці. Іх апраналі на вялікія святы. Прыкладам, шлюб бралі ў вышыванках. Нарачоная старалася вышыць прыгожую кашулю свайму каханаму. Вышыванка мае сваю аўру, стварае радасны настрой. Цяжка ў вышыванцы быць самотнай, бо вышыванка і самота не спалучаюцца, яны ў дысгармоніі. І ў самоце чалавек вышыванку не апранае. Арнамент служыць традыцыйным абярэгам, надае сілу, упэўненасць. І чалавек у вышыванцы ніколі і нікому не зробіць благога.

Апранаць вышыванкі, хадзіць, быць у іх на людзях лічылі сваім духоўным абавязкам шмат хто з нашых нацыянальных творцаў. Чалавек у вышыванцы — асоба натхнёная.

Максім Танк, стагоддзе якога сёлета спаўняецца ў верасні, таксама не ігнараваў гэтую традыцыю.

Дык якімі мы выглядаем сёння? Вырабы кітайскія, арнамент турэцкі… Пазнаюць жа людзей ці то па гаворцы, ці то па адзежы… Нам сваё насіць — не перанасіць!

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. (+375 29) 651 21 12, (+375 17) 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 367

Падпісана да друку 20.04.2012. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.

Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.

Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.